



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

20 лютага 2015 года №8 **(1034)**






# Па няведанні хлопцы спілавалі 200-гадовы дуб

**ВАЛОЖЫН. Дуб спілавалі супрацоўнікі Валожынскай ПМС са словамі: "Бачыш дрэва? – А давай спілуем!"**

Двое работнікаў Валожынскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм **Леанід Сямёнаў і Сяргей Пасавец** і самі цяпер не рады, што спілавалі тое дрэва. Леаніду, які спілоўваў дрэва, 20 гадоў, прарабу Сяргею, што даваў каманду спілаваць, – 21 год.

На полі ў вёсцы Гуды, дзе рос дуб, ПМС праводзіць работы па рэканструкцыі меліярацыйнай сістэмы. У межах гэтых работ і апынуўся дуб.

– Нас у брыгадзе працавалі чатыры чалавекі, – кажа Сяргей Пасавец. – Нехта сказаў: ну, які гэта дуб, гэта асіна. Ну, я і сказаў, каб пілавалі.

– Дуб гэты давялося пілаваць бензапілой больш за паўгадзіны, – дадае Леанід Сямёнаў. – Калі пілавалі, ніхто з мясцовых жыхароў не выйшаў, нічога не сказаў. Потым ужо тут, у інспекцыі, мы даведаліся, што нейкая жыхарка вёскі Гуды ажно плакала ў хаце, калі ўбачыла, што дрэва спілавалі.

**Аляксандр Нямкевіч**, дырэктар Валожынскай ПМС, далучаецца да размовы:

– Каб паехалі ў тую вёску і пасадзілі дуб, зразумела?

На што Леанід Сямёнаў адказаў:

– Вельмі сорамна і шкада, што так атрымалася. Я і гай гатовы там пасадзіць.

У Маладзечанскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету патэлефанавалі і сказалі, што ў вёсцы Гуды нехта незаконна спілаваў дуб у суботу, 14 лютага.

– Вінаватымі аказаліся двое супрацоўнікаў Валожынскай ПМС, рабочы і прараб. Яны прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці, – распавёў намеснік начальніка інспекцыі **Кірыл Чэбан**.

Хлопцаў аштрафавалі на пяць базавых велічынь. Цяпер яны абавязаныя выплаціць па 900 тысяч рублёў кожны.

Акрамя таго, юрыдычную асобу, Валожынскую ПМС, таксама прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Прадпрыемства аштрафавалі на 80 базавых (гэта 14 мільёнаў 400 тысяч рублёў).

Шкоду наваколлю спецыялісты ацанілі ў 12 мільёнаў рублёў. Яе таксама абавязаная выплаціць ПМС.

Дырэктар Валожынскай ПМС Аляксандр Нямкевіч:

– Гэтыя грошы мы вылічым з заробкаў Сямёнава і Пасаўца. Штомесяц яны будуць выплачваць па 20% ад заробку. У несезон у хлопцаў заробак невялікі, усяго каля трох мільёнаў. Ды мне па-чалавечы іх шкода. Леанід Сямёнаў – сірата. Нядаўна сацыяльнае жыллё атрымаў.

Па словах мясцовых жыхароў, гэтаму дубу каля 200 гадоў. У дыяметры ён прыкладна 85 сантыметраў.

## 12 мільёнаў – толькі кошт дошак

Каардынатара кампаніі "Гарадскі ляснічы" **Ігара Корзуна** сітуацыя са спілоўваннем дрэва абурыла:

– Як можна змераць шкоду наваколлю? Гэта дрэва – помнік прыроды, сведка гісторыі, культурная каштоўнасць. Што значыць шкода наваколлю ў 12 мільёнаў? Гэта толькі кошт дошак, якія можна зрабіць з гэтага дуба, – кажа Ігар Корзун.

Прычыны спілоўвання дрэва Ігару Корзуну ўвогуле незразумелыя:

– Гэта з той жа серыі: "Бачыш шкло? Давай выб'ем!" ці "Вунь прыгожая дзяўчына ідзе, чаму б яе не згвалтаваць?!"

– Ну што зробіш цяпер? – кажа дырэктар Аляксандр Нямкевіч. – Хлопцы пакараныя, шкоду будуць пакрываць. Затое будзе ўрок і ім на ўсё жыццё, і нам, што трэба больш адказна падыходзіць да сваіх супрацоўнікаў, асабліва да тых, хто працуе нядаўна.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Кірылам ЧЭБАНАМ.

**Дуб, які хлопцы перабліталі з асінай, рос ля вёскі Гуды каля 200 гадоў.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Перабудоўваюць фермы на паперы

**ВІЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ. ВАЛОЖЫН. Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю знайшоў правапарушэнні падчас маніторынгу рэканструкцый малочнатаварных фермаў.**

Кожнае сельгаспрадпрыемства павінна правесці рэканструкцыю малочнатаварнай фермы.

Большасць прадпрыемстваў з даручэннем справіліся. Некаторым жа яно стала празмерна складаным, хаця дзяржава аказвала істотную падтрымку.

У Вілейскім раёне не ўвялі чатыры фермы, а ў Мядзельскім – адну.

Каб прыхарашыць рэальнасць, замест актыўнай работы на гэтых аб'ектах некаторыя службовыя асобы знайшлі больш просты спосаб выканаць даручэнне – на паперы.

Толькі дзякуючы таму, што Камітэт дзяржкантролю ўмяшаўся ў той дзень, калі справаздачу ўжо везлі ў аддзел статыстыкі, дакументы з прыпісанымі лічбамі не зарэгістравалі. Сярод гэтых арганізацый – прадпрыемствы "Стайкі" і "Першы Беларускі" ў Вілейскім раёне, дзе не завяршылі будаўніцтва.

Паводле заканадаўства, за скажэнне дадзеных для статыстычнай справаздачы могуць даць штраф да 18 мільёнаў рублёў.

Бяда ў тым, што ашуканства не дае прыбаўкі малака і не паляпшае ўмовы працы ў галіне жывёлагадоўлі. Атрымліваецца, што на ферме "Добравічы" прадпрыемства "Першы Беларускі" па-ранейшаму дояць кароў у вёдры. Але на паперы атрымалася вельмі прыгожая справаздача, там пазначылі, што новую ферму з прасторнымі жывёлагадоўчымі памяшканнямі і перадавым дайльным абсталяваннем дабудавалі.

Маніторынг паказаў і іншыя недахопы ў працы малочнатаварных фермаў.

У таварыстве "Слабадская зара" Мядзельскага раёна дайльна-малочны блок ад жніўня 2013 года не запускалі, хаця на яго пабудову з бюджэту выдаткавалі немалую суму грошай. На прадпрыемстве "Падбярэззе" Валожынскага раёна жывёлагадоўчы аб'ект працуе на 24% ад вытворчай магутнасці.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**



Фота demiart.ru

На некаторых малочнатаварных фермах на паперы сучаснае абсталяванне, а ў жыцці дояць у вёдры.



ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Міхась Казлоўскі пра "Рэгіянальную газету"

Сёлета калектыў "Рэгіянальнай газеты" чакае знамянальную падзею – 20 год сярод сродкаў масавай інфармацыі краіны. Мы звярнуліся да некаторых заслужаных людзей з рэгіёна, каб яны сказалі колькі слоў пра газету.

Госць гэтага нумара – пісьменнік, краязнаўца, грамадскі дзеяч, крытык, публіцыст, выдавец **Міхась Казлоўскі**:

– Я не прапускаю ніводнага нумара "Рэгіянальнай газеты", вельмі люблю, паважаю гэта выданне. 20 год для газеты гэта і многа, але гэта і час, калі ўсё наперадзе: разнастайныя матэрыялы, новыя рубрыкі, цікавыя людзі. Таму найперш хацелася б пажадаць, каб "Рэгіянальная газета" радавала чытачоў пяць разоў па 20 гадоў.

Таксама пастаянны чытач пажадаў, каб тыраж "Рэгіянальнай газеты" дасягнуў 60 тысяч экзэмпляраў.

– Такі тыраж сапраўды заслужаны для газеты, – адзначае Міхась Міхасевіч. – Так большая колькасць людзей зможа пазнаёміцца з газетай і яе цікавымі матэрыяламі.

Таксама ён хацеў бы, каб пры газеце з'явілася невялічкая бібліятэка. Каб туды маглі прыйсці ахвотныя і пачытаць газету, узяць кнігу з публікацыямі пэўнага аўтара.

Міхась Казлоўскі пажадаў "Рэгіянальнай газеце" і яе супрацоўнікам далейшага прафесійнага майстэрства, больш цікавых рубрык, веры, упэўненасці ў сабе.

**Галіна СІНІЦА.**

ЧЫГУНКА

## Цягнік Мінск-Вільня прастаяў дзве гадзіны на станцыі Ашмяны

**АШМЯНЫ. 16 лютага цягнік Мінск-Вільня прыбыў на станцыю Ашмяны ў 21 гадзіну 45 хвілін. Аднак у адной з кабінак, дзе былі машыністы, пагасла святло – тэхніка перастала працаваць, таму цягнік не маглі завесці.**

Прыйшоў цеплавоз са станцыі Залессе, які прычапіў дызель-цягнік і скрануў яго з месца.

– Пасажыры не ўзрушаліся тым, што цягнік стаіць, – гаворыць начальнік станцыі Ашмяны **Ларыса Раціна**. – У вагонах было цёпла, гарэла святло.

Апраўіўся цягнік са станцыі Ашмяны ў 23 гадзіны 53 хвіліны. Ён прастаяў каля дзвюх гадзін.

**Як адбіваецца затрымка цягнікоў на мытні і памежслужбе**

Ці выклікае затрымка цягніка складанасці для пагранічнай службы, пракаментаваў памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы па рабоце са СМІ **Аляксандр Колабаў**:

– Для нас няма асаблівай розніцы. Затрымкі цягнікоў складанасці звычайна не выклікаюць. Магчыма, калі адначасова некалькі цягнікоў выб'ецца з графіка, то давядзецца падоўжыць змену.

Работнікі мытні паспелі спрацаваць, хаця затрымка цягніка выклікала нязручнасці. Як пракаментаваў начальнік мытнага паста "Гудагай", супрацоўнікам давялося дабірацца прыгараднымі цягнікамі, каб паспець выканаць работу.

**Галіна СІНІЦА, Зоя ХРУЦКАЯ.**

ЖЫЛЛЁ

## У Ашмянах актыўна будуюць дамы

**АШМЯНЫ. Сёлета чарга на жыллё на Ашмяншчыне паменее на 180 чалавек.**

Пра будаўніцтва дамоў распавяла галоўны спецыяліст аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Ашмянскага райвыканкама **Аксана Гайдукевіч**.

Летась у жніўні здалі 60-кватэрны дом, сёлета ў студзені – 70-кватэрны. Абодва дамы пабудаваныя па дзяржаўным заказе і размешчаныя па вуліцы Барунскай.

Сёлета будуюць два дамы па вуліцы Барунскай, адзін на 70 кватэр, другі на 40. Фінансаванне па іх яшчэ зацвярджаюць.

У 30-кватэрным доме па вуліцы Снядэцкага восем кватэр перадалі пад арэнднае жыллё. Новыя гаспадары будуць плаціць за арэнду плюс за камунальныя паслугі без права прыватызацыі. Астатнія кватэры адносяцца да сацыяльнага жылля.

64 кватэры, размешчаныя ў некалькіх дамах у Ашмянах і раёне, перадалі са службовага ў камерцыйнае арэнднае. Гаспадары засталіся ранейшыя – работнікі сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

НАЗНАЧЭННІ

## У Маладзечне будзе новы намеснік старшыні райвыканкама па сельскай гаспадарцы і харчаванні

**МАЛАДЗЕЧНА.** Былы намеснік **Генадзь Бажко** напісаў заяву, паводле якой яго перавялі на працу дырэктарам ў Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў.

Новую пасаду ён займае ад 12 лютага.

Як удакладніла начальнік арганізацыйна-кадравай работы Маладзечанскага райвыканкама **Тацццяна Шафаловіч**, былы дырэктар Маладзечанскага камбіната хлебапрадуктаў **Сямён Касабуцкі**, якому 64 гады, пайшоў на заслужаны адпачынак.

Кандыдатуру на месца першага намесніка старшыні разглядаюць у райвыканкаме і Мінаблвыканкаме.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## У Мядзеле прызначылі намесніка старшыні райвыканкама

**МЯДЗЕЛ.** Ад 6 лютага **Наталля Апановіч** прызначаная на пасаду намесніка старшыні Мядзельскага райвыканкама. Яна будзе курыраваць пытанні эканамічнай сферы.

Наталлі Апановіч – 42 гады, родам з Мядзельшчыны. Скончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Беларусі.

Да апошняга часу працавала намеснікам начальніка фінансавага аддзела Мядзельскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

ЭКАНОМІКА

# Рынак: вялікія скідкі, але купляць няма каму

## Прадпрымальнікі стаміліся змагацца за выжыванне

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 1 сакавіка многія прадпрымальнікі могуць сысці з бізнесу, таму што тэрмін распродажу рэшты тавараў без сертыфікатаў заканчваецца.**



На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства прадпрымальнікаў цяпер больш, чым пакупнікоў. Але нават вялікія скідкі не дапамагаюць распрадаць тавар: у людзей грошы ідуць на плацяжы і прадукты.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Паводле ўказа Прэзідэнта "Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці", ІП павінны мець сертыфікаты адпаведнасці, згодна з тэхрэгламентам Мытнага саюза, на ўсе тавары, якія ўвозяць у краіну. Рэшту тавараў дазволілі распрадаць да сакавіка.

Каб абмеркаваць сваю будучыню, беларускія прадпрымальнікі сабраліся ў панядзелак, 16 лютага, на форум "Мэты і задачы для малога бізнесу Беларусі", які арганізавала аб'яднанне "Перспектыва". На форуме былі і прадстаўнікі з нашага рэгіёна.

### Мноства прадпрымальнікаў могуць апынуцца на вуліцы

Што чакае мясцовы гандаль, распявала прадпрымальніца **Алена**, якая працуе на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.

Масавы сыход прадпрымальнікаў з бізнесу цалкам верагодны. Гэта ў першую чаргу тычыцца мясцовых ІП.

Калі ніякіх змяненняў не будзе, каля 90% прадпрымальнікаў, якія гандлююць таварамі лёгкай прамысловасці на розніцу, спыняць продаж.

– Вы самі паглядзіце: гандлю няма, попыт нізкі. Мы з радасцю прадалі б рэшту тавару, але проста не можам. Пакупнікоў практычна няма. Адразу відаць, што робіцца. Стаяць кучкамі прадаўцы, размаўляюць – работы няма.

Займацца сертыфікацыяй для прадпрымальнікаў нявыгадна. Гэта справа вытворцы ці пастаўшчыка. Прапанаваная схема работы пастаўленая надзвычай няпручна для ІП. Калі пастаўшчык завозіць тысячу адзінак аднаго тавару, сертыфікаваць ён не абавязаны. Хаця прасцей было б якраз яму з тысячы кофтачак узяць дзве і аддаць на сертыфікацыю, а атрыманыя дакументы капіраваць рознічным гандлярам. Мусяць працаваць так: з тысячы кофтачак па дзесяць штук раскупляе сто прадпрымальнікаў. Кожны са ста ІП павінен самастойна здаць па дзве кофтачкі, каб атрымаць сертыфікат адпаведнасці тэхрэгламенту. А атрымлівае толькі адзін від тавару гандлёвай палаткі.

Для ІП гэта вельмі растратна, да таго ж на тавар з дакументацыяй цана завышаная. Калі цяпер няма попыту на тавар са скідкай, то ўявіце, што будзе з таварам з дакументамі па завышанай цане. Адзінкі тавараў з дакументамі знайсці можна, прызнаюцца маладзечанскія гандляры. Але калі звычайная кофтачка каштуе 300 тысяч рублёў (20 долараў), то такая ж сертыфікаваная будзе 700 тысяч (47 долараў).

**Цэны літаральна за месяц упалі да закупачных. Зімовыя пухавікі месяц таму прадавалі па 800 тысяч рублёў, цяпер аддаюць за 500 тысяч. Цэны зніжаюць, але ўсё роўна рэчы вісяць, іх ніхто не купляе.**

– Цяпер у кожнага практычна ўсе грошы ідуць на прадукты і кватплату. Рэчы носім тыя, што ёсць. Мне здаецца, увесь рынак зжывае сябе. Ад 1 сакавіка, калі нічога не зменіцца, няма сэнсу выходзіць сюды працаваць. Якія перспектывы? Калі зменіцца эканоміка ў Беларусі, перамены да лепшага магчымыя. Пакуль што я не бачу пазітыўных варыянтаў. Рэшты застаецца многа. Прадаць не паспеем. Забяром дамоў, ды і ўсё.

Магчыма, да 1 сакавіка паспеюць прыняць дакумент, які дазволіць падоўжыць час для распродажу рэшты тавараў. Але гэта не выратуе сітуацыю, а толькі дасць адтэрміноўку. Прадпрымальнікі прапануюць зладзіць агульнанацыянальны з'езд з кіраўніцтвам дзяржавы, дзе спадзяюцца вырашыць праблему.

– Вядома, штосьці павінна змяніцца. Нас жа таксама нямала. Калі мы работу спынім, нашы падаткі не пойдуць у бюджэт. Мы ўсведамляем, што так быць не павінна. Калі нічога не зменіцца, мноства прадпрымальнікаў проста апынецца на вуліцы. На ўзроўні горада свае пытанні мы вырашаем выдатна. Але канкрэтна гэта пытанне вышэйшага ўзроўню. Мы будзем прасіць аб аўдыенцыі з Прэзідэнтам. Гэта наша адзіная надзея. Да 20 лютага мы збіраемся падаваць нашу просьбу. Калі яе прымуць, то, магчыма, рашэнне будзе.

**На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства 758 гандлёвых месцаў, 350 дагавораў арэнды заключана паміж прадпрымальнікамі і адміністрацыяй.**

### Дамовы арэнды пакуль не скасоўваюць, праверкі не плануюць

Пра магчымыя наступствы сітуацыі мы папрасілі пракаментаваць дырэктара рынку райспажыўтаварыства **Ганну Сіняўскую**:

– Я не магу прадбачыць дзеянні прадпрымальнікаў. Працуем у звычайным рэжыме. Дамовы з арандатарам заключаныя да 31 сакавіка. Пакуль заяў на скасаванне дагавораў арэнды не было.

У цэнтры стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі ў Маладзечне адзначылі, што працуюць згодна з планам, паводле якога пакуль не плануюць праверкі на рынку.

– Калі будзе адпаведны загад з дзяржстандарту, то мы правядзём праверкі, – расказала намесніца начальніка інспекцыі дзяржнагляду па вобласці, начальнік аддзела дзяржнагляду ў Маладзечне **Таіса Пятрова**.

Напрыканцы снежня падчас праверкі аддзела па эканамічных злачынствах канфіскоўвалі тавар у адной з гандлярак праз неадпаведнасць тавару вопісу рэшты. Здарыўся нервовы зрыў, яна легла пад колы міліцэйскай машыны. Відэа, якое знялі падчас канфіскацыі, актыўна абмяркоўвалі ў суполцы "РГ" у сацыяльных сетках. Адны гавораць, што купіць адзенне не на рынку будзе дорага, іншыя спачуваюць прадпрымальнікам, некаторыя наракаюць на якасць тавару не з крамы.

Калі гандляры таварамі лёгкай прамысловасці на рынку спыняць працу, гэта адаб'ецца і на саміх прадпрымальніках, і на пакупніках.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Галіна СІНІЦА.**

ЛІЧБА НУМАРА

**200 тысяч**

Прыкладна столькі індывідуальных прадпрымальнікаў у Беларусі

**80%** з іх працуюць у сферы гандлю

По інфармацыі эканаміста, фінансавага аналітыка і інвестыцыйнага кансультанта Міхаіла Баразгіна (myfin.by)

Інфаграфіка Наталлі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 12.02 | 19.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 330,00 | **14 910,00** |
| Еўра | 17 330,00 | **16 930,00** |
| Злоты | 232,00 | **4 039,50** |
| Расійскі рубель | 233,00 | **238,00** |
| Грыўня | 608,00 | **563,71** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 18.02** | | |
| Еўра | 17250/17600 | **16900/17250** |
| Долар ЗША | 15250/15600 | **14850/15070** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.02 | 18.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 138900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 45800 | **42000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115000 | **105000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13900 | **13900** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 3900 | **3900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14200 | **14200** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 5800 | **6500** |
| Морква, 1 кг | 6000 | **6500** |
| Буракі, 1 кг | 5800 | **6500** |
| Лімоны, 1 кг | 26900 | **26900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19500 | **19500** |
| Мандарыны, 1 кг | 24900 | **22900** |
| Памідоры, 1 кг | 34900 | **32900** |
| Агуркі, 1 кг | 33900 | **33900** |
| Перац, 1 кг | 39900 | **39900** |
| Вінаград, 1 кг | 29900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Хурма, 1 кг | 24900 | **29900** |
| Яблыкі, 1 кг | 8900 | **7900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **27500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 5500 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |



Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

● КРЫМІНАЛ

# Схаваў наркотыкі паміж ягадзіцамі

**МАЛАДЗЕЧНА. 23-гадовы маладзён паўтара месяца таму прыйшоў з арміі, але не знайшоў працы. Вырашыў гандляваць наркотыкамі ў Радашкавічах.**

Падчас пошукавых мерапрыемстваў супрацоўнікі міліцыі даведаліся, што малады чалавек звязваецца з ананімнымі гандлярамі спайсаў у Мінску, купляе ў іх дробныя партыі канцэнтраванага парашку. Потым запакоўвае яго і прадае.

### Пакупнікоў шукаў сярод знаёмых

Таксама праз замаскіраваную групу ў сацыяльнай сетцы.

Маладога чалавека затрымалі, калі ён вяртаўся з Мінска пасля пакупкі чарговай партыі парашку. Затрыманы вёў сябе спакойна і патлумачыў супрацоўнікам міліцыі, што ніякіх недазволеных прадметаў пры сабе не мае. Сказаў, што ездзіў у сталіцу да дзяўчыны, таксама шукаў працу.

### Схаваў наркотыкі паміж ягадзіцамі

Ні ў кішэнях, ні ў сумцы маладога чалавека наркотыкаў не знайшлі. Як пасля высветлілася, ён схаваў пакет са спайсам масай каля чатырох грамаў, а таксама два кулькі марыхуаны паміж ягадзіцамі.

Раней малады чалавек не прыцягваўся да крымінальнай адказнасці. Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

Узбуджаная крымінальная справа.

**Паводле Міністэрства ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама.**

● ЗДАРЭННІ

## Павярнуў налева, дзе нельга, праехаў два святлафоры на чырвонае, без правоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Выпадак адбыўся каля 8 гадзін раніцы ў панядзелак, 16 лютага.**

Парушальніка заўважылі, калі праводзілі рэйд. Мужчына ехаў па Багдана Хмяльніцкага, а потым павярнуў налева на Вялікі Гасцінец у бок Зялёнага Гарадка. Прычым налева павярнуў з паласы, з якой туды паварочваць нельга, распавёў намеснік начальніка РАУС **Уладзімір Васількоў**.

Міліцыя паехала за ім. Калі кіроўца праехаў два святлафоры на чырвонае, супрацоўнікі ДАІ ўключылі мігалкі. Спынілі кіроўцу на прыпынку ля Палаца культуры.

За рулём аказаўся мужчына, не прышпілены рамянём бяспекі, без правоў кіравання і без дакументаў на машыну.

Тое, што ехаў на чырвонае, кіроўца не прызнаваў. Казаў, на жоўтае. Правоў і дакументаў не меў, бо так спяшаўся адвезці дзяцей у школу, што забыў іх дома. І па версіі кіроўцы, калі яго спынілі, якраз ехаў дамоў, каб іх узяць.

Правы і дакументы ў яго сапраўды былі дома. І кіроўца быў цвярозы.

Аднак за парушэнні склалі тры адміністрацыйныя пратаколы, за якія ён атрымае штраф.

**Настасся РОЎДА.**

● СЛУЖБА 101

## У Ашмянах падчас пажару загінула 83-гадовая пенсіянерка

**АШМЯНЫ. Выратавальнікам 10 лютага патэлефанавалі суседзі з вуліцы Горнай. Яны ўбачылі, што полымем ахоплены дах, і пачулі, як узрываецца шыфер.**

У доме жыла 83-гадовая жанчына. Яна інвалід першай групы і амаль не рухаецца. Выратавальнікі праз вокны дабраліся да ложка гаспадыні і вынеслі яе з дому. Аднак дактары "хуткай дапамогі" канстатавалі смерць.

Жанчына жыла адна, не пагаджалася пераехаць да сваякоў. Сын, пляменнікі і сацыяльныя работнікі кожны дзень наведвалі яе.

У выніку пажару згарэў дах, пашкоджаныя сцены, перакрыцце і маёмасць унутры дома. Таксама запас сена для коз, які захоўваўся на гарышчы. Ад яго агонь імгненна распаўсюдзіўся па даху.

Ачаг пажару знойдзены ў кухні. Таксама заўважылі, што пральная машына была ўключаная.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаюць дзве асноўныя версіі – няправільная эксплуатацыя печкі і кароткае замыканне электраправодкі.

**Паводле Міністэрства па надзвычайных здарэннях.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Дзве жанчыны пацярпелі ў аварыі ля Маршалкаў

**ВАЛОЖЫН. Вечарам 15 лютага аўтамабіль "Грэйт Вол Ховер" каля вёскі Маршалкі з'ехаў у кювет, урэзаўся ў дрэва і перакуліўся.**

Дзве пасажыркі пацярпелі, адну з іх з салона даставалі выратавальнікі.

Пра гэта распавяла інспектар агітацыі і прапаганды ДАІ Мінскай вобласці **Ірына Сапунова**.

35-гадовая жанчына-кіроўца, жыхарка Кобрына Брэсцкай вобласці, не справілася з кіраваннем. Яна не пацярпела.

Траўмы атрымалі пасажыркі. Адной з іх 58 год, другой 37.

Выратавальнікі дапамагалі дастаць з аўто 58-гадовую пасажырку.

Пацярпелых шпіталізавалі ў Валожынскую ЦРБ.

Па факце ДТЗ праводзяць праверку.

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

## На пешаходным пераходзе "Сітраэн" збіў маладзёна

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніцай 12 лютага кіроўца "Сітраэна-Ксантыя" на нерэгуляваным пешаходным пераходзе збіў 23-гадовага маладога чалавека. З траўмамі пацярпелага шпіталізавалі ў бальніцу.**

Пра гэта распавяла інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ Мінскай вобласці **Ірына Сапунова**.

Здарэнне адбылося каля 6:20 раніцы на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і вуліцы Элеватарнай.

Аўтамабілем кіраваў 39-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна. Ён ехаў з боку Смаргоні на Мінск.

Пешаход, жыхар Маладзечна, атрымаў пералом нагі, удар у таз і галёнку.

Праводзіцца праверка.

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Перавозіў праз мяжу цыгарэты на 120 мільёнаў рублёў

**АШМЯНЫ. 2 лютага жыхар Беларусі пераязджаў праз пункт пропуску "Беняконі".**

Мужчына сказаў, што не мае пры сабе незадэклараванага тавару.

Падчас дагляду аўтамабіля "Сітраэн-Ксантыя" памежнікі знайшлі 8095 пачак цыгарэт.

Іх папярэдне ацанілі ў 120 мільёнаў беларускіх рублёў. Тавар канфіскавалі.

**Паводле прэс-службы Ашмянскай мытні.**

● СЛУЖБА 101

## Пажар у Людвінове – МНС выклікаў гаспадар

**ВІЛЕЙКА. Пажар адбыўся 15 лютага ў сем гадзін вечара. Гаспадар дома спаў, прачнуўся і ўбачыў, што ў пакоі многа дыму, выйшаў на вуліцу, выклікаў выратавальнікаў.**

Адкрытым полымем гарэў дах летняй кухні.

У выніку пажару была пашкоджаная частка даху, памяшканне не пацярпела.

Пра здарэнне паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзмітры Кляшняк**.

**Галіна СІНІЦА.**

ГРАМАДСТВА

# 14 парушэнняў знайшлі ў дзіцячым забаўляльным цэнтры

**МАЛАДЗЕЧНА. Такую праверку інспекцыя дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску ажыццявіла ў лютым. У забаўляльным цэнтры, што ў ГЦ "Модуль", праверылі дзіцячы лабірынт, батут з засцерагальнай сеткай і лесвіцай, дзіцячы міні-актракцыён "Чыгунка" на адпаведнасць тэхнічным патрабаванням.**


Фота paidagogos.com.

**Пакуль у дзіцячым забаўляльным цэнтры ў Маладзечне выпраўляюць парушэнні, дзеці могуць вярнуцца да ранейшых гульняў. Гэта прынясе не меншае задавальненне.**

У атракцыёне "Дзіцячы лабірынт" адсутнічаюць вінты для ўмацавання руля, на мяккіх частках горкі лабірынта разарванае пакрыццё, некаторыя ўчасткі падлогі шчыльна не замацаваныя, на каркасе з металічнай трубы, на даступных для дзяцей месцах, адсутнічае пакрыццё. Яно павінна паглынаць удары. Сетка агароджы парваная.

### На паравозіку не прымацаваная падлога

Накладка на батуце, якая ўмацоўвае металічны абруч, не замацаваная паміж сабой. Гэта можа прывесці да траўмы дзіцяці. Глыбіня лесвічак складае 75 міліметраў. Па правілах яна павінна быць не менш за 140 міліметраў.

На дзіцячым атракцыёне "Чыгунка" ў адным з паравозікаў падлога са стальнога ліста добра не прымацаваная, замест двух вінтоў толькі адзін. Стальны ліст прыпадняты з аднаго боку і мае востры край.

Шпалы не замацаваныя крапежнымі прыладамі. У месцы злучэння вонкавых рэек зламаны хамут, які сцягвае частку рэек. Электрычная шафа і кіруючая частка не маюць папераджальных надпісаў, таблічак. Правады, якія выходзяць з шафы, свабодна ляжаць на падлозе.

### Пашкоджаныя прыстасаванні нельга выкарыстоўваць

Пасля праверкі дзіцячаму забаўляльнаму цэнтру выдалі прадпісанне. Паводле яго, цэнтр не мае права выкарыстоўваць пашкоджаныя прыстасаванні, пакуль не выправіць парушэнні. Гэта трэба зрабіць да 2 сакавіка.

Складзены тры адміністрацыйныя пратаколы і накіраваныя ў суд Маладзечанскага раёна для разгляду.

**Паводле вядучага дзяржаўнага інспектара Людмілы ШЧАЮК.**



СВЯТЫ

## Масленіца пройдзе 21-22 лютага

**У Маладзечне** святочнае мерапрыемства пачнецца 22 лютага а 12 гадзіне раніцы ў парку Перамогі.

Пра гэта паведаміла загадчыца сектара культуры Маладзечанскага райвыканкама **Тамара Дудзіч**.

**У Вілейцы** таксама Масленіцу адзначаць у нядзелю, 22 лютага, – кажа намесніца начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама **Жанна Петух**. – А ў вёсцы Шылавічы свята пройдзе 21 лютага а 11 гадзіне.

Як паведаміла галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама **Валянціна Башлыкова**, свята пройдзе 21 лютага а 11 гадзіне дня. Сёлета **ў Смаргоні** будуць катацца на конях.

**У Ашмянах** Масленіцу адсвяткавалі 15 лютага, – кажа начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Ашмянскага райвыканкама **Галіна Балінская**, – у нас 80% людзей каталікі, а 18 лютага ў іх пачынаецца пост, таму свята правялі раней.

**У Астраўцы** яшчэ не вырашылі, ці будуць адзначаць Масленіцу, таму што першага сакавіка плануюць святкаваць "Гуканне вясны". Пра гэта паведаміла начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Астравецкага райвыканкама **Наталля Сенюць**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

КОНКУРСЫ

## У Маладзечне праходзіць фотаконкурс "Мой свет"

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён будзе доўжыцца да 23 лютага ў дзіцячым цэнтры творчасці "Расток". Ахвотныя ад 14 да 25 год могуць паспрабаваць свае сілы ў майстэрстве фатаграфаваць.**

Фотаконкурс праходзіць па трох намінацыях:

Першая – "Адзін дзень з жыцця...". На гэтых фатаграфіях павінны быць яркія, запамінальныя падзеі з жыцця пэўнага чалавека.

У намінацыі "Маладзечна – мая маленькая Радзіма" могуць удзельнічаць работы, якія адлюстроўваюць прыгажосць горада, раёна, яго краявіды, прыроду.

Фотаздымкі, якія паказваюць, як моладзь удзельнічае ў жыцці горада, раёна, могуць падаваць у намінацыі "Будучае – гэта мы".

### Работы ацэняць маладзечанскія фатографы

Пераможцаў выберуць у двух узроставых групах: ад 14 да 18 гадоў і ад 19 да 25 гадоў.

Работы будуць ацэнены па такіх крытэрыях, як арыгінальнасць фотаздымка і яго назвы, якасць з мастацкага і тэхнічнага боку, павінны раскрываць тэму.

24 лютага падвядуць вынікі конкурсу. У склад журы будуць уваходзіць фатографы з Маладзечна. Работы, якія адзначаць у конкурсе, будуць адабраны на выставу.

Пра гэта паведаміла загадчыца аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва **Вольга Спірыдонава**.

**Галіна СІНІЦА.**

ТЭХНІЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## У Вілейцы назвалі найлепшых юных вынаходнікаў

**ВІЛЕЙКА. На раённы конкурс тэхнічнай творчасці навучэнцаў "Думаем. Ствараем. Вынаходзім" прадставілі 20 прац.**

Абарона іх адбылася 7 лютага ў раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Удзельнікі прадстаўлялі і абаранялі творчыя працы з дэманстрацыямі і тлумачэннямі, расказаў метадыст установы **Анатоль Прыц**.

У секцыі "Тэхнічнае мадэляванне" журы вызначыла пераможцам **Вадзіма Мамая** з Нарочкай сярэдняй школы. **Яўген Жарскі** са Сцешыцкага сада-школы стаў лепшым у "Тэхнічным канструяванні".

У секцыі "Радыёэлектроніка, тэлемеханіка, аўтаматыка, робататэхніка" перамог вучань Людвінаўскай СШ **Віталь Таргачоў**. **Павел Каравай** з сярэдняй школы №1 Вілейкі стаў найлепшым у "Мультымедыйных тэхналогіях".

У секцыі "Энергетыка і электратэхніка" першае месца ў навучэнцаў цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Андрэя Міхалёва** і **Кліма Северына**.

**Аддзел інфармацыі.**

23 ЛЮТАГА – ДЗЕНЬ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ

# Топ-8 прывабных мужчын рэгіёна

**"Рэгіянальная газета" папрасіла сваіх чытачак з сямі гарадоў расказаць, каго яны лічаць самым прыгожым мужчынам у сваім горадзе. Хаця прывабныя мужчыны рэгіёна абсалютна розныя па прафесіі і не падобныя адзін на аднаго, але ў адным яны згодныя. Прыгожымі сябе не лічаць і валодаюць сапраўднымі мужчынскімі якасцямі.**

### ВАЛОЖЫН

Галоўны доктар цэнтральнай раённай бальніцы **Яраслаў Мянцюк** лічыць, што мужчыну трэба ацэньваць не па прыгажосці, а па ўчынках. Аднак добра, калі мужчына яшчэ і прывабны.

Галоўнаму доктару жанчыны нярэдка робяць кампліменты, мужчыны ж часцей ацэньваюць як спецыяліста.

– Часта мне гаварылі, што я элегантны, добры, у меру сціплы, – гаворыць Яраслаў Мянцюк. – Са свайго досведу магу сказаць, што для жанчын не апошні фактар, каб мужчына быў прывабным, прыгожым. Сам часта раблю кампліменты, як кажуць, жанчына любіць вушамі, а мужчына – вачамі.

На думку Яраслава Менцюка, галоўныя якасці характару, якімі павінны валодаць мужчына, – гэта стрыманасць, сіла волі, салідарнасць.

Таксама галоўны доктар узгадаў і самы прыемны падарунак на Дзень абаронцы – гэта вячэра пры свечках, якую наладзілі спецыяльна для яго калегі-жанчыны. Іншыя мужчыны ў бальніцы не пакрыўдзіліся, бо кожнаму быў падрыхтаваны сюрпрыз.

Ад свята ў гэтым годзе Яраслаў Мянцюк не чакае матэрыяльных падарункаў. Галоўны падарунак, на яго думку, гэта той, які можна адчуць душой.

### ВІЛЕЙКА

Дырэктар краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар** здзівіўся, што яго палічылі прыгожым.

– Канешне, прыемна, што мяне адзначылі сярод віляйчан, аднак я не лічу сябе прыгожым. Гэта жанчынам можна сказаць, што яны прыгожыя. А для мужчыны галоўнае, каб ён быў мужным і адказны.

Не ўзгадаў дырэктар краязнаўчага музея і самы прыемны камплімент, які яму рабілі.

– Якія кампліменты могуць гаварыць мужчыну. Але сам я па меры магчымасці гавару прыемныя словы сваёй жонцы, калегам. Ведаю, што ім ад гэтага прыемна. Чым больш кампліментаў гаворыш, тым больш прыгожымі становяцца жанчыны.

Сяргей Ганчар адзначыў, што на 23 лютага атрымлівае патрэбныя ў працы рэчы, напрыклад, нататнікі.

### СМАРГОНЬ

**Андрэй Усанаў**, саліст ансамбля "Спадчына":

– Ці лічу я сам сябе прыгожым? Ну, хутчэй так, чым не. Я не магу адразу прыгадаць самы прыемны камплімент ад жанчыны, а вось часцей за ўсё мне гавораць: "Ты такі мілы". Сам кампліменты гаварыць жанчынам люблю. Яны так і просяцца з языка, калі я бачу прыгожую жанчыну. Ну мне, як артысту, даволі часта дораць кветкі. І гэта самы прыемны падарунак ад гледачоў. Мужчына, на мой погляд, павінны быць смелым, разумным і абавязкова з пачуццём гумару. А 23 лютага я не адзначаю. Не хачу святкаваць Дзень арміі.

### МАЛАДЗЕЧНА

Начальніка РАУС **Валянціна Асіповіча** прыгажуном лічаць многія маладзечанкі, але ён прызнаецца, што яму дастаткова, што ён самы прыгожы для сваёй жонкі і мамы.

Кампліменты, сціпла прызнаецца Валянцін Пятровіч, яму даводзіцца чуць не часта. А вось сам гаварыць кампліменты любіць.

– Я заўсёды заўважаю, калі ў нашых супрацоўніц, напрыклад, новая прычоска. І заўсёды гавару ім пра гэта.

Пра рысы сапраўднага мужчыны Валянцін Асіповіч кажа, што гэта адказнасць, надзейнасць і вернасць.

Свята 23 лютага Валянцін Пятровіч будзе адзначаць 4 сакавіка.

– Так атрымоўваецца, што хутка пасля 23 лютага мы святкуем Дзень беларускай міліцыі. Вось тады і адзначаем адразу тры святы. Трэцяе – 8 Сакавіка. А 23 лютага міліцыя не святкуе таму, што гэты дзень святкуюць усе мужчыны краіны. А гэта значыць, што людзям у пагонах трэба быць напагатове.

Лепшым падарункам начальнік міліцыі лічыць сваю дачушку.

– А я сам падарункі выбіраць не ўмею ўвогуле. Як што выберу, дык дакладна гэта чалавеку не спатрэбіцца ніколі ў жыцці, – жартуе Валянцін Пятровіч.

### МЯДЗЕЛ

Старшы інспектар прафілактыкі аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі Мядзельскага РАНС капітан міліцыі **Яўген Якімец** адзначыў, што ён лічыць сябе прыгожым.

– Жанчынам падабаецца, што я высокі, таму робяць адпаведныя кампліменты, – расказвае Яўген Якімец. – Блізкія хваляць, што смачна гатую, раблю гэта пераважна па выхадных. Сам стараюся заўважыць змены ў знешнасці жанчын, тады абавязкова раблю кампліменты.

Самы прыемны падарунак, на думку Яўгена Якімца, калі віншуюць жонка і дачка, гавораць прыемныя словы.

Галоўнымі якасцямі характару, якімі павінны валодаць мужчына, Яўген Якімец называе мужнасць і мэтанакіраванасць.

### АШМЯНЫ

**Сяргей Жылік**, метадыст па ахове гісторыка-культурных каштоўнасцяў і музейнай працы навукова-метадычнага цэнтра аддзела культуры Ашмянскага райвыканкама.

Сяргея Жыліка самым прыгожым мужчынам выбралі жанчыны з Ашмянаў. Калі мы паведамілі пра гэта Сяргею, ён доўга і гучна смяяўся, а потым сказаў:

– Ну, з жанчынамі ўвогуле спрачацца бессэнсоўна. Калі яны так вырашылі, хай буду самым прывабным. Хаця я пра сябе так ніколі не думаў. Ды і мне наўпрост такіх кампліментаў не гаварылі. Часцей даводзіцца чуць пра сябе нешта накшталт: вы чалавек з пачуццём стылю.

Сяргею Жыліку больш даспадобы самому рабіць жанчынам кампліменты:

– Люблю я гэту справу! І лічу, што ўменне рабіць кампліменты жанчынам – гэта адна з тых рысаў, што робіць мужчыну мужчынам.

Як заўважае Сяргей, сярод тых якасцяў, якімі павінны валодаць мужчына, на першым месцы – інтэлект.

А пасля ўжо якасці – тактоўнасць, разважлівасць, надзейнасць. Важна для яго і каб мужчына ўмеў абараніць свой пункт погляду.

23 лютага адзначаць плануе.

– Так, мае дамашнія будуць мяне абавязкова віншаваць з гэтым святам, – кажа Сяргей. – Тым больш, што мае да мяне дачыненне. Я два гады адслужыў у войску. Што падораць, для мяне ніякага прынцыповага значэння не мае, галоўнае, каб падарунак быў ад душы і для душы.



Яраслаў Мянцюк, Валожын.



Сяргей Ганчар, Вілейка.



Андрэй Усанаў, Смаргонь.



Валянцін Асіповіч, Маладзечна.






Яўген Якімец, Мядзел.



Сяргей Жылік, Ашмяны.



Сяргей Сяўко, Астравец.



Міхаіл Шарапа, Маладзечна.

### АСТРАВЕЦ

Дырэктар дзіцячай школы мастацтваў **Сяргей Сяўко** сябе прыгожым не лічыць:

– Ну які я прыгожы! Ува мне росту метр 70, і ў шырыню я амаль такі ж, – смяецца Сяргей Сяўко. – І кампліменты праз сваю сарамлівасць не люблю. І, прызнацца па праўдзе, сам гавару іх рэдка. Не таму, што жанчын няма побач прыгожых, а таму, што вось такое ў мяне строгае выхаванне. І гадкі характар, – смяецца наш суразмоўца.

На пытанне, які падарунак чакае на 23 лютага, адказаў так:

– Напэўна, адэкалон падораць, а я так мару пра электралобзік! А сам на святы заўсёды прыходжу з кветкамі і "рафаэлкамі".

– Якімі якасцямі, на ваш погляд, павінны валодаць сапраўдны мужчына?

– Мужчына павінны быць мужным! І гэта адрознівае яго ад жанчыны. А ўсё астатняе – агульначалавечыя якасці.

**Наталля ТУР, Галіна СІНІЦА.**
**Фота Наталлі ТУР, забяспечана ўдзельнікамі топа.**

### Даслалі ў рэдакцыю

Таксама мы папрасілі нашых чытачак даслаць у рэдакцыю фота іх любімых мужчын.

Сярод іншых, хто даслаў фота, мы выбралі фотаздымак маладзечанца **Міхаіла Шарапы.** Фота даслала нам яго каханая дзяўчына **Ганна Стукіна.**

Міхаілу 23 гады. Ён займаецца бізнесам.

– Але галоўнае, ён самы лепшы хлопец у свеце, – прызнаецца Ганна.



Кадр з відэа Euroradio.fm

Падчас праверкі на рынку ў Маладзечне.

ЗДАРЭННІ

## Прадпрымальніца лягла пад колы міліцэйскага аўто

**МАЛАДЗЕЧНА. У жанчыны хацелі канфіскаваць тавар з-за адсутнасці дакументаў на яго.**

Гэты інцыдэнт адбыўся на рынку райспажыўтаварыства, куды раптам прыехала праверка.

У адной з гандлярак знайшлі парушэнні і хацелі канфіскаваць тавар.

У жанчыны здарыўся нервовы зрыў. Каб не адабралі і не звезлі яе тавар, гандлярка лягла пад колы міліцэйскага аўтамабіля.

Вакол сабралася шмат людзей, якія заступіліся за прадпрымальніцу.

**Аддзел інфармацыі.**
**Відэа глядзіце на сайце**

Rh.by

КУЛЬТУРА

## Адбудзецца выстава маладога мастака Андрэя Маркевіча

**ВІЛЕЙКА. 21 лютага, у суботу, а 16 гадзіне запрацуе выстава маладога мастака Андрэя Маркевіча "Юнацтва". Яна ладзіцца ў межах праекта "ART-Vileyka. Творчы шлях".**

Выстава пройдзе ў выставачнай зале Вілейскага краязнаўчага музея імя Нікадзіма Сілівановіча.

Мастак нарадзіўся ў 1994 годзе ў Вілейцы. У 2014 годзе скончыў Мінскі дзяржаўны архітэктурна-будаўнічы каледж. Ад 2009 года займаецца ў студыі мастака **Эдуарда Мацюшонка**. Займаецца графікай, жывапісам, анімацыяй. Удзельнічаў у некалькіх здымках кароткаметражных фільмаў.

Праект "ART- Vileyka. Творчы шлях" пачаўся ў 2013 годзе. У межах яго ладзяцца выставы ў галіне сучаснага мастацтва. Уже прайшлі выставы **Максіма Мандрыка** і **Вольгі Пескавой**.

**Паводле Вілейскага краязнаўчага музея.**

● ДА 250-ГОДДЗЯ МІХАЛА КЛЕАФАСА АГІНСКАГА

# Каляндар жыцця і творчасці Агінскага

## Юбілейны год стартаваў у Залессі трыма выданнямі-падарункамі Таццяны Кляшчонак, прысвечанымі аўтару паланэза “Развітанне з Радзімай”

**Найперш павінен я патлумачыць, чаму ў загалоўку напісана “Міхала Клеафаса”, а не карацей – “Клеафаса”, як гэта становіцца ўсё больш модна (маўляў, каб размежаваць яго з ягоным дзядзькам, таксама кампазітарам Міхалам Казімірам Агінскім) у апошні, ужо юбілейны час.**

Але ж імёны “Клеафас” і “Казімір” і ў першым, і ў другім выпадку — гэта не першыя, а другія па чарговасці і, значыць, істотнасці, важнасці! Абодва кампазітары палічылі б неэтычным другое імя ўжываць без першага.

То давайце так будзем лічыць і мы!

250-годдзе Міхала Клеафаса Агінскага, абвешчанае праз ЮНЕСКА, ужо распачалося адкрыццём пасля працяглага рамонту-абнаўлення сядзібы кампазітара ў ягоным маёнтку Залессе, што ў Смаргонскім раёне на Гродзеншчыне, па чыгуначнай і шасейнай дарогах з Мінска на Вільню, ранняй восенню мінулага года.

Для мяне асабіста гэты юбілей – двайное свята, бо менавіта мне першаму ў пасляваенны час пашчасціла публікацыяй ў былой маладзечанскай абласной газеце “Красное знамя” ў 1959 годзе даказаць, што Міхал Клеафас знаходзіўся, пішучы паланэзы, не “дзесьці ў Польшчы ці Літве”, не на “расійска-прускай мяжы”, а менавіта ў “14 мілях на ўсход ад Вільні па дарозе на Мінск”. Пасля гэтага ў Залессе панаехалі журналісты з Мінска і Масквы, якія ў сваіх артыкулах і радыёперадачах паспалучалі рэаліі, далікатна скажу, з фантастыкай… А потым мне давялося вазіць як самадзейнаму гіду ў яшчэ не аднаўленае Залессе і польскіх, і літоўскіх, і англійскіх ганаровых гасцей, сустракацца з нашчадкамі Агінскага і таксама кампазітарамі стрыечнымі братамі Іва і Анджэем Залускімі, якія цяпер жывуць у Вялікабрытаніі, і пісаць пра іх артыкулы. Як і пра самога Міхала Клеафаса – у кнігах “Падарожжа у XIX стагоддзе” (1969) і “Суайчыннікі” (2013).

Адным словам, здавалася мне, што ведаю я пра ўсіх Агінскіх багата. І, тым не меней, усе тры выданні-падарункі, прысланыя мне на Новы год **Таццянай Кляшчонак**, педагогам і перакладчыцай, а цяпер яшчэ і экскурсаводам па “заезных” суботах і нядзелях у Залессі, парадавалі мяне не толькі сваім шматколерным мастацкім вырашэннем, але і навізной ды навуковасцю зместу.

Свой агляд я хацеў распачаць з 18-старонкавай макрабрашуры “Залескі сакратар Леанард Ходзька”, выдадзенай у серыі (зразумеў: аўтарскай) “Постаці побач з М. К. Агінскім”, але, перачытаўшы “сувеніры” паўторна, змяніў першапачатковае рашэнне. І найперш звярнуўся да рускамоўнага “Календаря-біяграфіі Міхала Клеафаса Агінскага” на 2015 год (упершыню сустрэўся з такім жанрам). У ім таксама мноства невядомых мне (і будзе пераважнай большасці чытачоў і макрабрашуры, і нашай газеты) крыніц інфармацыі, імёнаў, ілюстрацый.

Дык уперад жа: месяц за месяцам, услед за “Календаром-біяграфіяй” і з дабаўленнем уласнай інфармацыі – праз увесь жыццяпіс Агінскага. Па многіх вызначэннях друку – польскага і літоўскага кампазітара і дзяржаўнага дзеяча. Аднак жа быў ён нашчадкам беларускага роду Глушонкаў, а Агінскім – пасля даравання ім маёнтка Агінты на тэрыторыі сённяшняй Літвы. “Ліцвінам” жа – таму, што так, у адрозненне ад “жмудзінаў”, называлі славянскіх насельнікаў тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага.

**Студзень.** Вялікі ўрывак з невядомай мне раней “Маёй біяграфіі, пачынаючы з дзяцінства і да 1788 года” М.К. Агінскага. Працытую ў перакладзе першыя радкі: “Я нарадзіўся 25 верасня 1765 г. у Гузаве, вёсцы маіх бацькоў, размешчанай (…) у 7 мілях ад Варшавы. Мой бацька, Анджэй Агінскі, да канца дзён сваіх ваявода Троцкі, а ў момант майго нараджэння староста Ашмянскі, мечнік Княства Літоўскага, кавалер польскіх ордэнаў, пакінуў Літву, каб асесці ў Польшчы, ажаніўшыся з маёй мамай, удавой Патоцкага, Гузаўскага старосты”. Гувернёрам Міхала Клеафаса быў француз Жан Рале, які, аказваецца, раней выхоўваў нашчадка аўстрыйскага трона эрцгерцага Леапольда ды цярпліва выхоўваў свайго вучня на ідэалах хрысціянства і французскага Асветніцтва – на еўрапейскім узроўні. Потым “удзячны вучань” паставіць свайму настаўніку памятны камень у Залессі.

**Люты.** Старонка мае


Фота забяспечана Адамам МАЛЬДЗІСАМ.

Гравюра Руарга “Сядзіба Агінскіх у Залессі” паводле малюнка з натуры Леанарда Ходзькі (1822).

назву “Першыя ступені палітычнай кар’еры”. Ступені гэтыя былі значныя: дэпутат сейма, член Фінансавай камісіі Вялікага Княства Літоўскага, які склаў карту памежжа “ад Палангі да Брэста”, страсны прыхільнік палітычных і эканамічных рэформ.

**Сакавік.** Агінскі тут выступае як дыпламат, пасол Рэчы Паспалітай у Галандыі і Англіі. За граніцу ён паехаў ужо з жонкай Ізабелай з Ляскоцкіх. Стварае першыя паланэзы. У 1791 годзе пераехаў на беларускія землі, у родавыя маёнткі колішніх Глушонкаў.

**Красавік.** Дзве чарговыя старонкі маюць назву “Паміж молатам і кавадлам”. Гэта значыць, паміж Расійскай імперыяй і Рэччу Паспалітай. Хто з іх быў молатам, а хто кавадлам, разабрацца чытачу цяжка. Хутчэй за ўсё, абодва бакі з’яўляліся ў сваім супрацьстаянні адначасова і тым, і другім. Агінскі быў вымушаны прысягнуць на вернасць Кацярыне II, сустрэўся ў Магілёве з яе фаварытам князем Пацёмкіным, каб толькі вярнуць канфіскаваныя маёнткі свайму “слонімскаму дзядзьку”, вялікаму гетману літоўскаму, і таксама, здаецца, аўтару дзвюх опер Міхалу Казіміру Агінскаму, у тэатры якога пляменнік бываў у дзяцінстве. Распачынаюцца складаныя палітычна-фінансавыя інтрыгі…

**Май.** У канцы 1792 года Агінскі едзе ў Пецярбург, сустракаецца з царыцай і яе саноўнікамі. Яму прапануецца, каб ён адгаварыў свайго “слонімскага дзядзьку” ад займання пасады вялікага гетмана, і гэта пляменніку нібыта ўдаецца.

**Чэрвень.** Адбываецца Другі падзел Рэчы Паспалітай, а за ім ўспыхвае паўстанне пад кіраўніцтвам нашага земляка-“ліцвіна” (значыць, фактычна беларуса) Тадэвуша Касцюшкі. Яго прыхільнік Міхал Клеафас за прададзеныя ці закладзеныя кляйноты сваёй жонкі ўзбройвае атрад у 500 чалавек і з баямі накіроўваецца праз Ашмяну (!), Валожын і Івянец да Мінска і далей на ўсход, каб “далучыць да паўстання каля 12 тысяч уласных прыгонных сялян, адпусціўшы іх на свабоду”. Але паход перапынілі расійскія войскі. У баі каля Бакштаў Агінскі ледзь не загінуў, а потым ледзь дабраўся да Вільні.

**Ліпень.** Другі паход Міхала Клеафаса быў скіраваны на поўнач, на Дынабург (Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс). Выяўляецца, што “з 1500 чалавек пяхоты 1200 былі ўзброены косамі і толькі 300 чалавек – ружжамі”. Але неўзабаве паўстанцаў дагнала вестка, што рускія войскі занялі Вільню. Агінскі з цяжкасцямі пачаў прабірацца за граніцу. Ды паланэз “Развітанне з Радзімай” ён напісаў не тады (хоць гэта сцвярджалася ў адной з маскоўскіх радыёперадач пасля маёй названай вышэй першапублікацыі ў маладзечанскай абласной газеце), бо ў 1794 годзе яшчэ ён верыў (у адрозненне ад 1822 года) у сваё хуткае і пераможнае вяртанне назад.

**Жнівень.** Аднак аптымістычныя спадзяванні неўзабаве развеяліся. У старонцы “Шляхі-дарогі патрыёта і эмігранта” гаворыцца (увага: новыя факты!): “У лістападзе 1794 г. М.К. Агінскі сустракаецца ў Аўстрыі з жонкай, і яны накіроўваюцца ў Венецыю. Тут іх знаходзіць ліст ад расійскага намесніка ў Польшчы князя Рэпніна з прапановай напісаць Кацярыне II пакаяльны ліст. Агінскі адмаўляецца і тым самым пазбаўляе сябе ўсялякай маёмасці. Падтрымлівае цесную сувязь з касцюшкаўскімі паўстанцамі-эмігрантамі. На словы Юзафа Выбіцкага піша музыку да “Марша Легіёнаў”, цяперашняга нацыянальнага гімна Польшчы. Сустрэўшыся з Напалеонам, расчароўваецца ў ім. Потым, канчаткова збяднеўшы, вяртаецца ў адзін з маёнткаў сваёй жонкі, якая, у сваю чаргу, не можа даваць яму расходаў на ўзбраенне паўстанцаў. Наступае фактычны развод.

**Верасень.** І тут адбываюцца змены. На рускі трон уступае Аляксандр I, на якога Агінскі (дадам ад сябе) ўскладае надзеі, што той дазволіць існаваць не толькі Царству Польскаму, але і Вялікаму Княству Літоўскаму. А тут другі дзядзька, маладзечанскі граф Францішак Ксаверы Агінскі, дорыць Міхалу Клеафасу Залессе. І новы ўладальнік уязджае туды ў 1803 годзе не адзін, а з Марыяй дэ Неры, захоўваючы яе і свой, мужчынскі, гонар пасля скандальнага знаёмства ў Вільні.

**Кастрычнік.** Старонка “У любімым Залессі” багата партрэтамі, зробленымі невядомымі мастакамі. Гэта выявы жонкі Міхала Клеафаса Марыі, іх дочак Амеліі, Эмы і Іды, сына Ірэнеуша, а таксама двух Ходзькаў – залескага сакратара Леанарда і аўтара паэмы “Залессе”, пазнейшага дыпламата, пасланніка Расіі ў Персіі Аляксандра. Марыя дэ Неры (патлумачу ад сябе: дачка італьянскага гандальера) аказалася жанчынай малапісьменнай, але кемлівай. Атрымаўшы тытул графіні, насіла яго горда, ды не заўсёды годна… Гэта яна з’явілася адной з прычын таго, што Міхал Клеафас канчаткова расчараваўся і ў Залессі, і ў расійскім імператары. І напісаўшы паланэз “Развітанне з Радзімай”, выехаў з жонкай і дачкой Амеліяй у Парыж, а потым у Фларэнцыю. Але абедзве жанчыны неўзабаве вярнуліся ў Залессе. А вялікі палітык і кампазітар апошнія 10 год пражыў у Італіі у адзіноце. Праўда, за некалькі месяцаў да яго смерці, а наступіла яна 15 кастрычніка 1833 года, з “Літвы”прыехала да яго другая дачка Эма. І Міхал Клеафас яшчэ паспеў паблаславіць сваю першую ўнучку Эму.

**Лістапад.** Аднак у папярэднім абзацы я істотна апярэдзіў і ходу падзей, і аповед Таццяны Кляшчонак. 11-я старонка яе календара называецца “Сенатар Расійскай імперыі”. Аказваецца, у 1810 годзе Аляксандр I прызначыў Агінскага сваім тайным саветнікам па справах далучаных заходніх губерняў. Міхал Клеафас спадзяваўся, што тым самым робіцца крок да аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага. І таму ў 1812 годзе ён не застаўся ў Залессі, а выехаў у Пецярбург, у чым Напалеон (зноў дадам ад сябе) у час адступлення папракнуў у Маладзечне яго дзядзьку Францішка Ксаверыя. Састарэлы і хворы гаспадар адказаў, што вось французы прыйшлі і адступаюць, а яго пляменнік зрабіў правільна, застаўшыся з расейцамі. На гэта імператар не знайшоў што адказаць і, злаcліва ляпнуўшы дзвярыма, пайшоў спаць у суседні пакой. А Каленкур, сакратар Банапарта, вывеў на каміне “Napoleon I”. І трэба ж такому здарыцца, што праз суткі ў тым жа пакоі і на той жа канапе адпачываў сам Кутузаў. А яго ардзінарац дадаў да свежага надпісу: “И последний”. І памыліўся, таму што гісторыя ведае яшчэ Напалеонаў другога і трэцяга. Праўда, на зямлі беларускай і як заваёўнік Банапарт сапраўды аказаўся апошнім… Затое не памыліўся Міхал Клеафас: пачуўшы аб першых праследаваннях знаёмых яму па Варшаве і Пецярбургу дзекабрыстаў і, мусіць, баючыся падзяліць іх лёс, ён назаўсёды пакінуў радзіму. Толькі тых (дадам свежую думку) адправілі на вісельні або на ўсход, у сібірскую ссылку, а гэты добраахвотна накіраваўся ў адзіноту ў Заходнюю Еўропу. Выходзіць, гэта было адно і тое ж пакаленне дваранскіх і шляхецкіх рэвалюцыянераў!

**Снежань.** Апошняя старонка календара, як і трэба было чакаць, прысвечаная жыццёвай і творчай спадчыне М. К. Агінскага, увекавечанню яго памяці. Тут мы бачым вокладкі музычных і мемуарных твораў, здымкі яго нашчадкаў за ігрой на фартэпіяна, помнікі яму і мемарыяльныя дошкі ў Гузаве, Фларэнцыі і ў Маладзечне.

Апошнюю старонку змястоўнага календара Таццяны Кляшчонак закрываеш з перакана232ннем, што спадчына Міхала Клеафаса Агінскага сапраўды належыць не толькі тром суседнім краінам і народам – Беларусі, Літве і Польшчы, але тым самым Еўропе і свету.

**Заканчэнне будзе.**


Адам МАЛЬДЗІС, прафесар.

● ГІСТОРЫЯ

# Як праходзіла дзяцінства каля касцёла ў Анжадаве

**АШМЯНЫ. У 1949 годзе касцёл у Анжадаве выкарыстоўвалі як калгаснае сховішча. Аднак мала хто ведае, што пабудову аблюбавалі мясцовыя дзеці для сваіх гульняў, шукалі там скарбы.**

**Валеры Пячкоўскі** жыў амаль перад уваходам у касцёл ў 1968-1976 гадах. Яму тады было сем гадоў. У суседнім доме – старшыня калгаса.



Фота забяспечана Валерыем ПЯЧКОЎСКІМ.

На фотаздымку Валеры Пячкоўскі (злева) разам з бацькам Францам Пячкоўскім. Валеры жыў амаль перад уваходам у касцёл ў 1968-1976 гадах.

### Як бамжы знайшлі залатыя манеты

– Часта я гуляў з сынам старшыні калгаса **Колем Кавалеўскім**, – успамінае Валеры. – Ён быў маім равеснікам. Бегалі мы па іх хаце і не ўяўлялі, якое багацце схавана там. Напэўна, не ведалі гэтага і бацькі Колі. Прайшоў час, многае прыйшло ў заняпад, і ў той хаце пасяліліся бамжы. Аднойчы яны пасварыліся, адзін кінуў крэслам у другога і трапіў ім у дзвярны вушак. Той адваліўся, а адтуль пасыпаліся залатыя манеты. Аднак шчасце гэтых людзей было нядоўгім – за бутэльку аддалі залатыя.

Мужчына ўзгадвае, што вокны касцёла былі забітыя дошкамі, на дзвярах вісеў вялізны замок, каменныя сходы засыпаныя пяском для зручнага праезду транспарту.

– Дах на пабудове быў не з дранкі, а са шчапаных дошчачак, – гаворыць мужчына. – Яны былі роўненькія-роўненькія. З іх рабілі вельмі ладныя стрэлы. На адной сцяне вісеў абраз – выява на ім сцерлася, толькі рамка засталася і выпуклая тоўстая бібула. Калі мы яе выразалі, то знайшлі пачак царскіх сторублёвак.

Тады маленькія хлопчыкі не ўсведамлялі іх гістарычнай каштоўнасці: што ў школу аддалі, што цікаўным парараздавалі.

### Жагналіся, але баяліся, каб ніхто не ўбачыў

Мужчына ўспамінае, што не раз заўважаў, як старыя дзядзькі, праходзячы па дарозе каля касцёла, здымалі шапкі і жагналіся, цёткі таксама кланяліся і жагналіся. Аднак хаваліся, каб ніхто не ўбачыў.

Мясцовыя людзі ездзілі ў бліжэйшыя вёскі Літвы, каб схадзіць у касцёл. Шлюбы і хрэсьбіны ладзілі ў Вільні. За чырвонае яйка на Вялікдзень маглі выгнаць са школы.

### Атрымлівалі ад бацькоў, што скакалі з хораў

Дзеці не ўспрымалі касцёл як рэлігійны будынак, як гісторыка-культурную каштоўнасць. Ім цікава было гуляць там, шукаць скарбы – ад гэтага ўся зямля была праткнутая пруткамі. Гулялі ў хованкі, вайну, пікера, у "чыжа", з рагаткі стралялі.

Валеры з іншымі дзецьмі залазіў пад дах па прыстаўной лесвіцы і адтуль скакаў з "хораў" у збожжа.

– Цяпер дзіўна, што і страху не было, – дзівіцца мужчына. – Ад бацькоў за гэта атрымлівалі: хто дзягай, а хто і экранаваным провадам. Калі ўзгадваю пра гэта, то і, праўда, страшна становіцца: столь месцамі прагніла і можна было лёгка зваліцца на цэментную падлогу.

### Скокнуў у цэмент – выцягнулі адтуль за вушы

Неяк вясной, калі ў адным адсеку ўсё збожжа вывезлі, насыпалі цэменту. Дык адзін хлопчык скокнуў у яго – толькі вушы засталіся відаць. За іх і выцягнулі.

– Аднойчы котка акацілася пад дахам, – узгадвае Валеры. – Аднак сама загінула пад коламі. Кацяняты ж увесь час пішчалі – шкада было бедных. Дык я залез пад стрэшку, узяў іх за пазуху, аднак развярнуцца не змог – падстрэшак быў вузкі. Тады задам палез, падцягнуўся і злез. Толькі калі злез, паджылкі затрэсліся – нада мной было метраў дзесяць вышыні.

### Бурылі касцёл – дзеці збеглі з урокаў

З часам бэлькі, якія ўтрымлівалі вежу, падгнілі, яна нахілілася. Баяліся, каб пабудова не абвалілася на прылеглыя будынкі. Тады старшыня калгаса запрасіў меліяратараў з магутнымі трактарамі, каб звесці вежу. Зямля дрыжэла, трасы рваліся – не такія гнілыя аказаліся бэлькі. Але ўрэшце вежа не вытрымала.

– Помню, у школе тады быў перапынак, – узгадвае мужчына. – Чуем – трэск, гром, і на тым месцы, дзе праз сукі дрэў віднелася вежа – пуста. Якія пасля гэтага заняткі! Усе паляцелі туды: пад абломкамі ляжалі вялізныя званы. Аднак праз ноч іх ужо не было – праз пару тыдняў яны зазванілі ў Каменцы, што на Літве. Калі з'явіўся новы каменны будынак касцёла, то званы зноў вярнуліся ў Анжадава.

Новы будынак касцёла з цэглы ў Анжадаве пачалі аднаўляць у 1993 годзе. Скончылі ў 1995 годзе.



**Галіна СІНІЦА.**
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Фота radzima.org.

Так выглядаў касцёл у Анжадаве ў 1936 годзе.

**Даведка "РГ". Касцёл у Анжадаве** пачалі будаваць у 1912 годзе, аднак яго будаўніцтва спыніла вайна. У 1917 годзе будаўніцтва працягнулі, касцёл адкрылі. У 1949-м савецкая ўлада зачыніла яго, а ксяндза арыштавалі. Пабудову сталі выкарыстоўваць пад калгаснае сховішча.

**Бібула** – так на Ашмяншчыне называлі тоўсты, трывалы кардон.

**Хоры** – высока размешчаны балкон у храмах, прызначаны для хору альбо аркестра.

● КАЛЯНДАР

**20 лютага.** 75 гадоў назад (1940) у Гродне адкрыўся настаўніцкі інстытут – першая ў Заходняй Беларусі вышэйшая навучальная ўстанова.

***

**90 гадоў** назад (1925) у Беларускім дзяржуніверсітэце адбыўся першы выпуск студэнтаў (55 эканамістаў і юрыстаў).

***

**21 лютага.** Міжнародны дзень роднай мовы.

***

**1903 год.** Нарадзіўся Вінцэнт Жук-Грышкевіч (мяст. Будслаў, цяпер Мядзельскі раён), педагог, гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Германіі і Канадзе, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1970-1982 гг.

***

**24 лютага.** 80 гадоў з дня нараджэння Рыгора Барадуліна (1935 – 2014), беларускага паэта, перакладчыка, народнага паэта Беларусі.

***

**390 гадоў** з дня нараджэння Багуслава Казіміра Маскевіча (1625 – 1683, в. Сэрвач на Навагрудчыне), вайсковага і грамадскага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, пісьменніка-мемуарыста. Быў нейкі час ашмянскім маршалкам. Аўтар двух "Дыярыушаў" (дзённікаў), напісаных на польскай мове, якія даюць аб'ектыўнае ўяўленне пра тагачасныя падзеі і факты ваеннага, палітычнага і грамадскага жыцця. У рамане Генрыка Сянкевіча "Агнём і мячом" выведзены вобраз шляхціча-ваяра Багуслава. Але апавядаецца там больш пра яго бацьку Самуэля Маскевіча.

***

**420 гадоў** таму (1595) нарадзіўся Мацей Сарбеўскі, беларускі і польскі лацінамоўны паэт, тэарэтык літаратуры і школьнага тэатра, тэолаг, філосаф. Большую частку свайго жыцця ён правёў на Беларусі і ў Літве, у Полацку напісаў свае асноўныя творы па рыторыцы, паэтыцы і антычнай міфалогіі, моцна паўплываў на беларускую лацінамоўную літаратуру, навуку і школьную адукацыю 17 стагоддзя. Таму зусім справядліва лічыць яго агульным здабыткам трох народаў.

***

**26 лютага.** 210 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Здановіча (1805 – 1868), гісторыка, пісьменніка, педагога, кандыдата філасофіі.

***

**75 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Пузыні (1940 – 2012, Мінск), беларускага музыкі, майстра-рэстаўратара нацыянальных музычных інструментаў, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Тату-майстар: каго толькі не было! І былыя зэкі, і бабулі за 80

**МАЛАДЗЕЧНА. Татуіроўка – гэта даніна модзе ці нешта больш значнае і містычнае? Пра тое, як татуіроўка мяняе жыццё і што рабіць, калі ад крымінальнага мінулага на плячы засталіся пагоны, распавядае тату-майстар Таццяна Яблонская.**

– Я вучылася ў Маладзечанскім музычным вучылішчы на аддзяленні дэкаратыўна–прыкладнога мастацтва. Таму магу сказаць, што беларускую сімволіку ведаю дастаткова добра. У нашай студыі нават над уваходам вісяць славянскія ўзоры, арнамент. Але людзей, якія б рабілі нешта беларускае, не так шмат. На агульным фоне ўсяго некалькі працэнтаў. Быў хлопец, які нешта прасіў напісаць па-беларуску. Я нават не запомніла, што іменна.

**– Якія папулярныя сюжэты татуіровак сярод маладзечанцаў?**

– Амерыканскія матывы, так званыя, new school, японскія матывы, скандынаўскія арнаменты, традыцыйны стыль. Вельмі часта маладзечанцы робяць надпісы на англійскай мове або на лаціне.

**– Што пішуць на целе?**

– Тут усё індывідуальна, як і ў любой татуіроўцы. Але часцей за ўсё надпісы звязаныя з каханнем, анёлам-ахоўнікам, пішуць імёны дзяцей. Дарэчы, ёсць такія кліенты, якія прыходзяць да нас з малюнкамі сваіх дзетак і просяць зрабіць тату.

**– Не адмаўляеце?**

– У такім выпадку не. Гэтыя малюнкі многа значаць для людзей, нават калі я сама бачу ў іх толькі каракулі. Складаней працаваць, калі чалавек дарослы намалюе нешта крывое і просіць яму з гэтага зрабіць тату. Такіх кліентаў часта даводзіцца адгаворваць.

Пад словам адгаворваць Таццяна мае на ўвазе не тое, што яны адмовяцца рабіць тату і пакажуць чалавеку на дзверы. Майстар прапаноўвае зрабіць свой эскіз па выбраным кліентам сюжэце, зрабіць яго мастацкім і прыгожым. А вось калі адгаворваюць чалавека, дык хутчэй ад месцаў на целе, дзе тату рабіць не пажадана.

Гэта ступня, твар, далоні, пяткі – тыя месцы, дзе тату можа з часам "паплыць". Папярэджваюць кліентаў і аб балючых месцах. Балюча рабіць татуіроўкі там, дзе тонкая скура і блізка косці – на локцях, рэбрах, унутраным баку сцягна, пад пахамі.

## Татуіроўкі часцей робяць мужчыны

Прыкладны ўзрост кліентаў тату-салона ў Маладзечне – ад 30 да 50 год. Бывае, што бацькі прыводзяць дзяцей, таму што па правілах, калі маладому чалавеку не споўнілася 18 гадоў, на татуіроўку павінен быць дазвол бацькоў. Бывае, што прыходзяць сталыя людзі. Яны, як правіла, заўсёды кажуць: "Усё жыццё марыў пра татуіроўку, цяпер зраблю і супакоюся".

Не так даўно ў салон да Таццяны на перманентны макіяж унучка прывяла сваю 87-гадовую бабулю, яна рабіла стрэлкі.

Калі гаварыць пра пол кліентаў, то мужчыны часцей робяць татуіроўкі, чым жанчыны.

Даводзілася Таццяне закрываць і татуіроўкі раней судзімых людзей. Прыходзіў мужчына, які перакрываў зэкаўскія "пагоны". Як прызнаецца майстар, з малюнкамі працаваць не цяжка, цяжка працаваць з людзьмі, якія самі не ведаюць чаго хочуць.

Ёсць у Таццяны кліент, які не можа дарабіць тату ў японскім стылі ўжо цягам 8 месяцаў. Праца вялікая, на ўсю спіну, робіцца з перапынкамі.

– А ўвогуле, тату – гэта хвароба, – кажа майстар. – Зрабіўшы адну, вельмі цяжка спыніцца, хочацца дарабляць зноў і зноў.

Прыходзілі ў салон і людзі, якім доўга шукалі месца на целе, дзе б яшчэ можна было змясціць татуіроўку.

## Фрыкаў у нас няма

Таццяна і яе тату-салон – пастаянныя ўдзельнікі розных фестываляў, тату-канвенцый. Вось там даводзілася бачыць розных, як гаворыць Таццяна, дзіўных людзей.

Татуіраваныя з ног да галавы людзі ўжо не здзіўляюць. А вось тое, што некаторыя робяць тату на бялку вока, выклікае лёгкі шок. Іх спецыяльна запрашаюць на тату-мерапрыемствы ў якасці гасцей. Многія заробляюць гэтым на жыццё.

На адным з фестываляў Таццяна рабіла тату – выяву японскага мультыплікацыйнага персанажа Пікачу. Да яе падышоў японец, стаў распранацца. Потым, як зразумела Таня, ён хацеў паказаць свае татуіроўкі ўсіх пакемонаў. У тым ліку і Пікачу, які таксама быў вытатуіраваны на целе японца.

Прыходзіў у тату-салон і негр.

**– Хіба на цёмнай скуры бачныя татуіроўкі?**

– Не ва ўсіх, – смяецца Таццяна. Аднойчы на фестывалі мы бачылі цемнаскурага барабаншчыка адной вядомай групы. Ён цёмны-цёмны, бачны толькі зубы і вочы. Дык вось, калі я падышла да яго бліжэй, то ўбачыла, што ён увесь у татуіроўках. А іх на адлегласці не відаць зусім.

## Даведайцеся пра сімволіку тату

Тату накладвае адбітак на лёс чалавека, упэўненая майстар. Таму перад тым, як рабіць тату, трэба дасканала вывучыць яго сімволіку.

Напрыклад, чорная котка. Сімвалаў у такой выявы мноства. У тым ліку і адмоўных. Таму трэба быць асцярожным з выбарам такога тату.

Ці матылёк. Некаторыя лічаць, што гэта сімвал пераараджэння, аднаўлення. Але ёсць меркаванне, што гэта таксама і сімвал прастытуткі.

Была ў Таццянінай практыцы гісторыя, калі да яе прыйшла дзяўчына, каб зрабіць тату. І расказала, што некалі зрабіла татуіроўку "ад няма чаго рабіць". Нейкія незразумелыя ўзоры. І ў жыцці таксама нічога не складвалася. Вырашылі тую старую татуіроўку перакрыць крыжам. Праз некаторы час дзяўчына сустрэла Таццяну і падзякавала ёй за тату, пасля якога жыццё стала наладжвацца.

**Наталля ТУР.**



**Даведка РГ. "Old school"** – традыцыйны стыль татуіровак Еўропы і Амерыкі. Найбольш распаўсюджанымі ў гэтым кірунку з'яўляюцца такія малюнкі, як чэрап, сэрца, стужкі, анёлы, крыжы, агонь, кветкі, якары. **"New school"** – гэта яркія фарбы і малюнкі, даволі падобныя да графіці, дзе часта можна ўбачыць персанажаў коміксаў і мультфільмаў (неад'емныя часткі моладзевай субкультуры).

Фота vk.com.

**Тату-майстар Таццяна Яблонская падчас стварэння чарговага ўзору на целе.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

**Жыхарка Валожыншчыны Жэня, зацікавіўшыся жыццём продкаў, вырашыла зрабіць тату, якое абазначае яднанне сонца і зямлі.**



Фота Юліі ШАБЛОЎСКАЙ.

**Татуіроўка маладзечанкі Юліі абазначае ўраджай. Узор тату яна знайшла толькі ў Нацыянальным музеі.**

21 ЛЮТАГА – ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ



Фота Настассі РОЎДЫ.

Маладзечанец Ігар Ліштван аднойчы вырашыў размаўляць па-беларуску кожны дзень і ўвесь час. І пачаў.

# “Мне проста хочацца размаўляць па-беларуску”

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанец Ігар Ліштван вырашыў, што будзе ўвесь час размаўляць па-беларуску ад 1 ліпеня 2012 года. І трэці год не змяняе аднойчы прынятаму рашэнню.**

Пра непераадольнае жаданне сказаць у краме “хлеб, калі ласка”, пра кінутае знаёмымі “говори нормально”, пра неразуменне сям’і гаворыць хлопец і раіць, як усё гэта перамагчы.

Ігар скончыў маладзечанскую гімназію-каледж мастацтваў у 2013 годзе. Паступіў ва ўніверсітэт на бясплатную форму навучання. Аднак хутка зразумеў, што гэта замінае яму рабіць тое, што ён хоча, і забраў дакументы. Цяпер займаецца бізнесам.

### Тры галоўныя штуршкі да беларускасці:

### 1. Настаўніца беларускай мовы

– Пачалося ўсё з **Вольгі Румынскай**, якая ў сярэдзіне восьмага класа пачала ў нас выкладаць беларускую мову. У той час мы былі яшчэ зацюканыя школьнікі, баяліся непадрыхтаваными прыйсці. Тут жа хочаш-не хочаш, а давядзіцца вывучаць мову. Прытым на яе занятках нельга было гаварыць па-руску. І з ёй было вельмі цікава. Мы захапіліся беларускай мовай, гісторыяй у прыватнасці, і разам з аднакласнікам **Косцем Кухарэнкам** дамаўляліся ў нейкі дзень увесь час размаўляць па-беларуску.

### 2. Беларуская музыка

Другая рэч, якая ўплывала на мяне, гэта беларуская музыка. Да таго часу ўсё ўяўленне пра беларускую музыку ў мяне было звязанае з зоркамі беларускай эстрады. Неяк выпадкова трапіў на рок-канцэрт у Маладзечне. І па рэгламенце канцэрта выконваць песні можна было толькі па-беларуску. Я не думаў туды ісці, але ў сябра аказалася некалькі дармовых білетаў і мы пайшлі. І мяне накрыла.

Увесь наступны тыдзень я слухаў песні тых гуртоў, якія выконвалі на канцэрце свае песні.

А на наступны дзень з бацькам і братам паехаў у вёску касіць. І мы разам у такой атмасферы: навушнікі, у якіх гучыць беларуская музыка, каса ручная. Так адчувалася беларускасць!

### 3. Дзяўчына

Трэці фактар. Яна была з Івянца. Маці яе выкладае беларускую мову. Таму дзяўчына станоўча адносілася да мовы. Мы з ёй і ліставаліся, і размаўлялі толькі па-беларуску.

У мяне дагэтуль былі спробы пачаць штодзённа размаўляць па-беларуску, але няўдалыя. Спачатку зламаўся мой сябар, з якім мы разам пачалі, а потым і я.

### “Кажу па-руску і разумею: гэта не тое, што хачу сказаць”

– У пэўны момант ты разумееш, што гаворыш па-руску, але гэта не тое, што ты хочаш сказаць, – кажа Ігар. – Прыходзіш у краму, так і хочацца вымавіць: “Дайце, калі ласка, гэта і гэта”. А што ў выніку? Падыходзіш і бубніш: “Дайте мне, пожалуйста, хлеб. Спасибо”.

І вось вечар, сяджу, думаю: якраз заўтра першага ліпеня. Чаму б не пачаць? І пачаў.

### Як адрэагавалі блізкія

**– Як паставілася да пераходу на мову тваё асяроддзе: пачынаючы ад блізкіх і заканчваючы выпадковымі знаёмымі?**

– Сям’я адразу не ацаніла. Прыйшоў неяк дадому, пачаў размаўляць. Бацькі ледзь-ледзь разумелі. А потым увогуле загадам сказалі: “З намі толькі па-руску”. Сябры нада мной такой улады не маюць, таму з усімі астатнімі размаўляў па-беларуску. Некаторыя казалі: “Игорь, говори нормально”. Але для мяне гэта норма. З цягам часу гэтыя ж, пачуўшы, што я дзесьці ўставіў рускае слова, казалі зноў жа: “Игорь, говори нормально!” Яны цяпер ужо не могуць чуць ад мяне рускую мову. У школе проста гледзячы і назіралі, што з гэтага выйдзе.

**– Сям’я ў выніку прыняла тваю мову?**

– Размаўляў з рэпетытаркай па англійскай мове, а маці была дома ў суседнім пакоі. І ўжо іду ў свой пакой, як маці спыняе: “Ігар, а з кім ты гаварыў зараз?” – “З рэпетытаркай па англійскай мове” – “Што, ты і з ёй па-беларуску гаворыш?” – “Мама, я з усімі, акрамя вас, па-беларуску размаўляю” – “Ну, можаш і з намі па-беларуску гаварыць”, – сказала яна вінавата. Я доўга смяяўся.

Яны спрабавалі мяне разумець і засвойвалі некаторыя словы. Ужо ніякіх праблем, прызвычаіліся.

**– А ці лічыш ты, што беларусы павінны размаўляць па-беларуску?**

– Такія прычыны, як некаторыя называюць: спадчына, памятайце, хто мы такія, – на мяне ўплыву не маюць. Я проста хачу размаўляць па-беларуску. Мне гэта падабаецца. І няхай кожны вырашае гэта пытанне для сябе. Навошта бізуном прымушаць, калі ёсць пернік?

І для кожнага, лічыць Ігар, пернік свой. Для яго – гэта тое, што мова дапамагае дасягаць поспеху. У тым ліку і ў бізнесе. Як заўважае хлопец, мова збліжае. І часам вельмі добра.




Настассся РОЎДА
E-mail:
nastya.rovdo@gmail.com
Skype:
nastya_rovdo


## Урыўкі беларушчыны з жыцця Мікалая Рака

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі мы папрасілі расказаць спадара Мікалая гісторыю сваёй беларускасці, ён прыгадаў самыя яскравыя эпізоды з дзяцінства, юнацтва, маладосці, сталасці.**

Яны хоць і вырваныя з кантэкста ўсяго жыцця, аднак з іх складаецца яго ўласная гісторыя.



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Мікалая Рака ў маладзечанскай бібліятэцы “Верасок” называюць самым беларускім чытачом. Ён амаль заўсёды бярэ кнігі па гісторыі Беларусі, кнігі беларускіх аўтараў.**

### Прачытанае

– У чацвертым класе пачаў запісваць, колькі прачытаў кніг. У сёмым класе ў мяне было 380 з нечым.

### Госці

– Неяк прыехаў у госці да брата. Мне тады было гадоў 13. **Вася** быў старэйшы за мяне на 20 гадоў, працаваў галоўным інжынерам. Пайшлі неяк вечарам з ім у госці да яго сяброў. Было застолле, мяне пасадзілі побач. Я сядзеў і слухаў.

А за сталом усе чацвёра па-беларуску размаўлялі: брат з нявесткай **Клавай**, пара знаёмая іх. Усе, акрамя брата, настаўнікі. Як цяпер памятаю, пра ўсё на свеце гаварылі. Тады я неяк па-свойму заўважыў, як гучыць беларуская мова ў інтэлігентных людзей.

### Ластоўскі

У старэйшых класах спадар Мікалай зацікавіўся беларускай гісторыяй. Аднак у той момант патрэбных кніг не знайшлося. Тое, што яму траплялася, пераважна апісвала савецкі час. Яго ж цікавіла ранейшае мінулае.

– І толькі ў бібліятэцы старэйшага брата знайшоў “Кароткую гісторыю Беларусі” Ластоўскага. Тады я і пачаў цікавіцца беларускасцю.

### У аўтобусе

Падчас навучання ў тэхнікуме і на першых курсах Беларускага політэхнічнага інстытута, сёння Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, Мікалай Рак закінуў чытанне беларускіх кніг. Не да таго было.

– А на трэцім курсе інстытута еду ў аўтобусе да сястры. Стаяць там два хлопцы і так па-беларуску размаўляюць! А я думаю: “Мама родная, я ж беларус, а беларускай мовы не ведаю!” Прыехаў да сястры, дастаў “Новую Зямлю” Коласа, прачытаў адразу і пасля гэтага з беларускай мовай не разлучаюся.

### Мікола Ермаловіч

– Яшчэ ў школе, памятаю, загаварыў ён са мной. Да сённяшняга дня маю яго напрацоўкі. Іх друкавалі ў “Маладосці”. Я выразаў, кнігу зрабіў з яго нататкаў пра наша Вялікае Княства Літоўскае.

### Бібліятэка

На лецішчы, куды спадар Мікалай любіць ездзіць, у яго свая ўласная бібліятэка.

Дарэчы, нягледзячы на гэта, гарадскую бібліятэку спадар Мікалай не абмінае. Летась, як распавялі ў бібліятэцы “Верасок”, узяў каля 50 кніг. Большасць беларускіх, гістарычных.

### Мова

– Я лічу яе вельмі дасціпнай, красамоўнай. І пяшчотнай. Пра каханне на беларускай мове можна лепей, чым на рускай, сказаць.

### Бацькі

Маці спадара Мікалая вучылася на курсах для гаспадынь: мыць, шыць, гатаваць.

– Потым яе як адну з лепшых забраў на працу віцэ-ваявода Віленскай губерні. Так як мая маці гатавала ў дзяцінстве, дзецi вясковыя такога ніколі не елі, – прыгадвае спадар Мікалай. – З нічога магла зрабіць што хочаш. І вясельныя торты пякла. Бацька працаваў на чыгунцы. Была свая гаспадарка, свая зямля. Пяцёра дзяцей нас было. Пяцёра сыноў. Усе ў інстытутах адвучыліся. А брат старэйшы, **Шура**, пры немцах быў у Саюзе беларускай моладзі.

**Даведка “РГ”.** Нарадзіўся Мікалай Рак у Запаляках у 1948 годзе. Працаваў на электрасетках вучнем аўтаслесара, потым старшым інжынерам. Пасля быў прыватным прадпрымальнікам. Цяпер спадар Мікалай займаецца тым, што дапамагае жонцы, чытае газеты, кнігі, выразае па дрэве ў майстэрні на лецішчы.

Настасся РОЎДА.

● УСПАМІНЫ

# Алег Гаруновіч: пункты прыёму шклатары былі маімі спонсарамі

**Алег Гаруновіч, галоўны рэдактар сайта by.tribuna.com, распавядае пра збор бутэлек, пра Макуху і Вяжыка, маладзечанскага Туміловіча і правінцыйны гонар.**



Фота з архіва "Рэгіянальнай газеты".

**Момант гульні маладзечанскай каманды супраць "Шынніка". Віталь Казяк на пярэднім плане ў светлай форме.**

У 2001 годзе, калі я толькі паступіў ва ўніверсітэт, быць маладзечанцам было прэстыжна. На ўсякім выпадку, сярод людзей, якія цікавяцца спортам. Студэнты аб'ядноўваліся ў групкі па інтарэсах і сярод іншых на журфаку БДУ была "спартыўная секцыя". Падчас лекцый яна размяшчалася на галёрцы, і яе ўдзельнікі па чарзе чыталі "Прэсбол", таму што купіць газету было не так проста.

Правінцыйны гонар і правінцыйны патрыятызм могуць выяўляцца па-рознаму. Прыезджыя члены спартыўнага гуртка мераліся адзін з адным колькасцю гульцоў з іх горада ў нацыянальнай зборнай. А ад Віцебска хто? Гурэнка – гродзенскі! Ты, з Пастаў, увогуле маўчы, у вас няма нікога (і яшчэ не хутка будзе, ха-ха!). Нам, маладзечанцам, у той час было кім ганарыцца. Браты **Макоўскія**, **Мілеўскі**, **Карыцька**. А яшчэ Вяжык, значыць, **Вяжэвіч**, наш.

Няхай да зборнай ён асаблівага дачынення не меў. Але для статысічнага горада нядрэнна, праўда? І гэта не кажучы пра гульцоў другога парадку.

Мне здаецца, у 90-я ў "горадзе сонца" не прасякнуцца футболам было немагчыма. Апынуцца сярод футбольных заўзятараў было натуральна і лагічна.

На пратаколе арэна "Металурга", а потым проста "Маладзечна", а потым "Маладзечна-2000" змяшчала 5000 чалавек. Сядзелі яны на драўляных лаўках і не скардзіліся.

Нам, маладзечанцам 90-х, пашанцавала. Было за каго хварэць. За каманду выступалі і прыезджыя хлопцы, але ўсеагульнымі ўлюбёнцамі былі мясцовыя. І справа не толькі ў пасведчанні аб нараджэнні. Макух – ну, як іх было не любіць? Ці як было не любіць Вяжыка?

А яшчэ былі **Клімовіч**, **Лебедзеў** (ён жа Лебедзь), **Казяк**. Пра апошняга казалі, што ён выдатна вучыўся ў школе і скончыў яе з залатым медалём. Нібыта выкладчыца хіміі, даведаўшыся, што Казяк абраў футбол, а не вучобу, схапілася за галаву.

Мае сімпатыі належалі варатару **Мікалаю Абрамовічу**. Таму самаму, пра якога распавёў "смачную" гісторыю Уладзімір Макоўскі. Чамусьці запомнілася, што Абрам гуляў у жоўтым світары. Грозна крычаў. І перыядычна хацеў надаваць кухталёў сапернікі – схапіць каго за грудкі, заваліцца на нападніка ўсёй масай, непрыкметна "брыкнуць" у барацьбе.

Брудныя, вядома, прыёмчыкі, але рабілася гэта з запалам, ад душы. Гэта быў наш Гена Туміловіч. Я перажываў за маладзечанскіх у клубе. Радаваўся, калі нашых выклікалі ў зборную. Любіў зборную, таму што ў ёй выступалі нашы.

Каб трапіць на гарадскі стадыён, трэба было купіць білет. А каб набыць яго, трэба было адстаяць у чарзе. Чэргі на футбол у той час яшчэ не выклікалі здзіўлення.

А каб стаць у чаргу, пажадана было мець пры сабе грошы. І вось з гэтым часам бывалі праблемы. Пры Саюзе наш горад быў завязаны на некалькіх буйных прадпрыемствах. І калі пасля распаду СССР "Спадарожнік", "Электрамодуль" і іншыя сталі на калені, мае бацькі працавалі на "Электрамодулі".

Футбол не ўваходзіў у лік прыярытэтных выдаткаў сямейнага бюджэту. Так што часам, калі з грашыма здаралася напружанне (а здаралася яно рэгулярна), дзеля футбола даводзілася варушыцца. Напрыклад, збіраць бутэлькі. У дзяцінстве гэта не здавалася чымсьці ганебным.

**Малочныя (іх можна было ўзяць дома), піўныя (іх трэба было шукаць на вуліцы, канкуруючы з бабулькамі) – пункты прыёму шклатары часта былі спонсарамі маіх футбольных паходаў.**

З камандай радніла і вось яшчэ што. Вакол 12-й маладзечанскай школы знаходзіцца шмат двароў. У кожным гулялі ў футбол. Двары часта "секліся" паміж сабой. Сярод гульцоў былі і тыя, хто займаўся ў мясцовай футбольнай ДЮСШ. Патэнцыйна – будучыя зоркі клуба. І некаторыя з іх – **Дзяніс Смірноў**, **Сяргей Дрозд**, **Аляксандр Альховік** – пазней засвяціліся ў камандзе, але зоркамі, на жаль, не сталі.

Дрозд і цяпер на плыву. Мінулы сезон правёў у "Слуцку". У дзяцінстве мы ганялі мяч пад школьнымі вокнамі. Праўда, не ўпэўнены, што ён памятае гэта.

**Стадыён СШ 12 перасякала сцяжынка. Часам па ёй хадзіў будучы гулец зборнай Андрэй Мілеўскі. Як сказаў адзін інфармаваны пацан, хадзіў да цешчы. Аднойчы Мілеўскі папрасіў ударыць па варотах, калі мы гулялі ў "тысячу". Усе хлопцы былі моцна задаволеныя.**

Кожнаму заўзятару належыць мець самы памятны матч. У мяне гэта гульня, якой я так і не ўбачыў. Напэўна, таму яна і запомнілася. Бацькі з'ехалі ў вёску, а суседзі, якія ўзялі нада мной шэфства, на футбол не пусцілі, хоць самі пайшлі. У госці да "Маладзечна" прыехаў Мазыр. Нашы прайгралі, а аўтобус гасцей быў закіданы камянямі. Уяўленне малявала эпічную бітву. Наогул, выезд у наш горад нікому не абяцаў быць лёгкім.

Цяпер маладзечанская каманда гуляе ў другой лізе. Кажуць, на наступны сезон дакладна заявіцца – у святле мноства перажытых фінансавых праблем гэта ўжо добра. Лепшым гульцом ФК па выніках мінулага года стаў **Андрэй Лявончык** – не блытаць, не салігорскі! Мы з Андрэем таварышы – выступаем за адну каманду ў аматарскім турніры. Дакладней, Андрэй гуляе, а я выступаю.

Сустракаючыся, час ад часу дуру яму галаву: "Ну што, у Маладзечне ёсць новыя Макоўскія? Калі нашы будуць у зборнай? Ну, ці хаця б у вышэйшай лізе". Андрэй разводзіць рукамі.

Чаму маладзечанская футбольная школа знемагла, вычарпалася, а разам з ёй – і мая цікавасць да клуба? Гэта пытанне ўсё ўсплывае і ўсплывае ў маёй галаве.

**Паводле сайта by.tribuna.com**



Фота з сайта vk.com.

**Злева капітан ашмянскай каманды Юлія Мешчановіч з трэнерам Верай Мальцавай.**

● ГАНДБОЛ

## Ашмянскія гандбалісткі трэція ў вобласці

**АШМЯНЫ. На першынстве Гродзенскай вобласці "Імклівы мяч" сярод дзяўчынак 2002-2003 гадоў нараджэння, якое праходзіла ў Слоніме, ашмянская каманда заняла трэцяе месца.**

**Вера Мальцава** трэніруе цяперашнюю каманду два гады, але задаволеная вынікамі мэтанакіраваных спартсменак. Амаль кожны месяц дзяўчынкі выязджаюць на спаборніцтвы.

Нядаўнія рэспубліканскія, якія прайшлі ў Маларыце, прынеслі ашмянскім гандбалісткам чацвертае месца. Аднак пераканаць усіх, што чацвертае месца для ашмянскіх дзяўчат – не мяжа, спартсменкі змогуць ужо ў красавіку.

Чарговы этап абласнога першынства па гандболе "Імклівы мяч" пройдзе вясной у фізкультурна-спартыўным цэнтры Ашмянаў. А пакуль дзяўчынкі ўзмоцнена трэніруюцца.

Капітан каманды лепшы паўсярэдні гулец рэспублікі **Юлія Мешчановіч**, **Кацярына Бярнат**, **Паліна Свірская**, **Віялета Лашук**, **Дыяна Мешчановіч**, **Ксенія Кругляк**, **Дар'я Зык**, **Святлана Трэпет**, **Аліна Міхалькевіч**, **Дар'я Заянчкоўская**, **Анастасія Смалонская** і **Караліна Масальская** працягваюць гандбольныя традыцыі сваіх папярэднікаў і адточваюць майстэрства на абласных і рэспубліканскіх пляцоўках.

Паводле слоў трэнера Веры Мальцавай, зладжана згулялі гандбалісткі і на рэспубліканскім турніры памяці заслужанага трэнера Беларусі Леаніда Гуско, дзе былі трэцімі. У гэтых спаборніцтвах найвышэйшага ўзроўню трэнер разам са сваімі выхаванкамі прымала ўдзел у 12-ы раз.

Калі звярнуцца да гісторыі, то ашмянская каманда практычна заўсёды трапляла на турніры ў лік прызёраў. Былі ашмянскія дзяўчынкі і чэмпіёнкамі гэтых спаборніцтваў. Так што цяперашнім гандбалісткам ёсць на каго раўняцца, ёсць з каго браць прыклад.

**Аддзел інфармацыі.**

● КОНКУРС

## "Дынама- Маладзечна" абвясціла конкурс сэлфі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пераможцы конкурсу атрымаюць білеты на матч, нешта з атрыбутыкі каманды або магчымасць сфатаграфавацца з камандай "Дынама-Маладзечна".**

Прыняць удзел у конкурсе зможа любы заўзятар, у каго ёсць акаўнт у любой сацыяльнай сетцы.

Умовы ўдзелу ў конкурсе простыя. Удзельніку трэба зрабіць самае крэатыўнае сэлфі, загрузіць фатаграфію ў спецыяльны альбом у групе "Дынама-Маладзечна" "У кантакце" (у апісанні пад фота пастаўць хэштэг, сваё імя, прозвішча і ўзрост). Таксама фота трэба апублікаваць у сябе на старонцы Укантакце / Twitter / Instagram абавязкова з хэштэгам #1ДМ і # СэлфіДляДынамаМаладзечна.

Каб ваша фота ўзяло ўдзел у конкурсе, на здымку павінна быць бачна назва каманды або нумар гульца каманды. Пераможцы будуць узнагароджаныя на лядовай арэне, перад адным з дамашніх матчаў каманды.

Канчатковая дата правядзення конкурсу невядомая. Арганізатары ўдакладняюць, што конкурс адбудзецца тады, калі на яго дашлюць фотаздымкі мінімум 30 удзельнікаў.

**Даведка "РГ". Сэлфі** – фатаграфія самога сябе на фоне нечага, зробленая такім чынам, калі вы самі трымаеце фотаапарат у руках.

**Наталля ТУР.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



фота Настасі РОЎДЫ

**Марозная раніца. Вялікі Гасцінец.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Храбры кравец"** (музычная казка), *Браты Грым*
22 лютага – у 12:00
Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27**

УНП 600136804

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў"** (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
24 лютага, аўторак, – у 10:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Памяць, за сабой пакліч..."** (музычна-паэтычны спектакль)
20 лютага, пятніца, – у 15:00

**"Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
22 лютага, нядзеля, – у 17:00

**"Не такі, як усе"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*
24 лютага, аўторак, – у 19:00

**"Любоў па-італьянску"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), *Эдуарда дэ Філіпа*
25 лютага, серада, – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).

E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

УНП 600066659

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 8 | 6 | | 7 | | |
| | 9 | | | | | | 5 | 2 |
| 7 | | | 9 | | | | 4 | |
| 9 | | 7 | | | | | | |
| | 1 | | 4 | | 2 | | 7 | |
| | | | | | | 3 | | 1 |
| | 6 | | | | 8 | | | 3 |
| 8 | 4 | | | | | | 6 | |
| | | 5 | | 4 | 3 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● РЭПЕРТУАРЫ



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя **"Губка Боб"** 3D (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
20 лютага – у 17:30
21 лютага – у 15:00
22 лютага – у 13:00; 19:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"Прыгоды Падынгтона"** (Францыя, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
21 лютага – у 13:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Камедыя **"Ёлкі махнатыя"**, (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
22 лютага – у 15:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, сямейны **"Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы"** (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
24 лютага – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, фантастыка **"Невідзімкі"**, (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
22 лютага – у 17:00
25 лютага – у 19:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік **"Узыходжанне Юпітэр"**, 3D (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21, 23, 26 лютага – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, крымінал, камедыя **"Kingsman: Сакрэтная служба"** (Вялікабрытанія, 2014, з 16 год)
20 лютага – у 22:00 (50 000 рублёў)
22 лютага – у 21:00
24 лютага – у 21:30 (45 000 рублёў)

Меладрама, драма **"Пяцьдзясят адценняў шэрага"** (ЗША, 2014, з 18 год)
21, 23 лютага – у 22:00 (50 000 рублёў)
25 лютага – у 21:30 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Гістарычная ваенная драма **"Батальён"** (Расія, 2014)
20 лютага – у 19:30
21, 23, 25 лютага – у 17:00
24 лютага – у 19:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі **"12 месяцаў. Новая казка"** (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 лютага – у 17:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыйная меладрама, крымінал **"Фокус"** (ЗША, 2015, з 16 год)
26 лютага – у 22:00
Цана білета – 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Фэнтэзі **"Пчолка Мая"** (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
21 лютага – у 14:00
22 лютага – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя **"Прыгоды маленькіх італьянцаў"** (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
20 лютага – у 17:00
21 лютага – у 16:00
22 лютага – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Моладзевыя вострасюжэтныя прыгоды **"Схватка"** (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
20, 22 лютага – у 21:30
25 лютага – у 21:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер **"Пабудзь у маёй шкуры"** (Вялікабрытанія, 2013, з 16 год)
20 лютага – у 19:00
21 лютага – у 21:00
22 лютага – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя **"Вось дык сяброўка"** (Італія, 2014, з 16 год)
21 лютага – у 19:00
23 лютага – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Ваенная драма **"Цэль бачу"** (Расія, 2013, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
23 лютага – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, прыгоды **"Дзень дурня"** (Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24 лютага – у 18:30
26 лютага – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Крымінал **"Ровер"** (Аўстралія, 2013, з 16 год)
24 лютага – у 21:00
25 лютага – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі **"Ваўкі"** (Францыя, 2013, з 16 год)
26 лютага – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя **"Дзень дурня"** (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 лютага – у 18:30
21 лютага – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Крымінал **"Ровер"** (Аўстралія, з 16 год)
20, 21 лютага – у 20:00
22 лютага – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя **"Любімчыкі ў пошуках вясёлкі"** (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
21, 22 лютага – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Жахі **"Сіневір"** (ЗША, Украіна, з 16 год)
22 лютага – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама **"Прышпіліце рамяні"** (Італія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25, 26 лютага – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя **"Воўк з Уол-Стрыт"** (ЗША, з 18 год)
25 лютага – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер **"Пабудзь у маёй шкуры"** (Вялікабрытанія, з 16 год)
26 лютага – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Меладрама **"Пяцьдзесят адценняў шэрага"**, 2D (ЗША, з 18 год)
20, 22 лютага – у 20:30
21 лютага – у 21:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Гісторыя, ваенны, драма **"Батальён"** (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 лютага – у 18:00
21 лютага – у 18:30
25 лютага – у 20:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды **"Губка Боб"** 3D (ЗША, Паўднёвая Карэя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21, 22 лютага – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў
25, 26 лютага – у 18:00
Цана білета – 30 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік **"Узыходжанне Юпітэр"**, 3D (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21 лютага – у 16:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі **"Невідзімкі"**, 2D (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 лютага – у 16:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Меладрама, камедыя, крымінал **"Фокус"** 2D (ЗША, з 16 год)
26 лютага – у 20:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

● ГАРАСКОП

**(20-26 ЛЮТАГА)**

**Авен.** Зоркі раiць вам трымаць вочы і вушы адкрытымі для новай інфармацыі – гэта ўзбагаціць вас новымі ведамі. А яшчэ чакаюць сюрпрызы, якія ўдыхнуць у вас свежае паветра.

**Цялец.** Вас чакае бурны перыяд, мора эмоцый. Не губляйце толькі кантроль над сваім бюджэтам. Ваша мэтанакіраванасць дапаможа дасягнуць немагчымага.

**Блізняты.** Поспех ваш – у ведах. Вам трэба падумаць, як падняць планку свайго прафесіяналізму, каб прасунуцца ў кар'еры. Чым больш будзеце ведаць, тым больш новых дзвярэй адчыніцца перад вамі.

**Рак.** Калі мастак піша карціну, ён павінны адысці на пару крокаў, каб акінуць яе адным поглядам. Так і вам трэба. Магчыма, у карціне вашага жыцця не хапае нейкіх важных штрыхоў.

**Леў.** Не адступайце ні перад якімі цяжкасцямі, і рана ці позна вы дасягняце сваёй мэты. Верце ў свой поспех, і ў вас усё атрымаецца.

**Дзева.** Важна для вас – гэта зрабіць правільныя высновы. І тады адчыняцца закрытыя, схаваныя дзверы.

**Шалі.** Памятайце, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся.

**Скарпіён.** Не прыдзірайцеся да свайго партнёра і не павучайце яго. Такія вашы паводзіны цалкам могуць стаць прычынай вялікай сваркі.

**Стралец.** Стрымлівайце жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць "уласную" праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям.

**Казярог.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.

**Вадалей.** Калі прымаеце важныя рашэнні, якія тычацца вашага жыцця, то не варта прыслухоўвацца да парадаў сяброў ці сваякоў. Вы ведаеце ўсе тонкасці, нюансы і самі павінны прыйсці да правільных высноў.

**Рыбы.** Вы будзе прыцягваць да сябе павышаную ўвагу, вы можаце смела браць удзел у публічных выступленнях, яны прынясуць вам поспех і прызнанне.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на Rh.by

Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**21 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / +3 | | -1 / +3 | | +1 / +5 | | 0 / +3 | |
| | 741 | → 5 | 737 | ↑ 5 | 736 | ↗ 7 | 736 | ↑ 6 |
| Вільня | 0 / +2 | | -1 / +3 | | +3 / +4 | | -2 / +3 | |
| | 749 | ↗ 6 | 743 | ↑ 7 | 744 | ↗ 5 | 742 | ↑ 9 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.19
Захад 18.33
Даўжыня дня 10.14

Усход 9.12
Захад 22.19
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -1 / +3 | 746 | ↑ 5 |
| Мінск | -1 / +3 | 737 | ↑ 5 |
| Гродна | -1 / +4 | 743 | ↑ 6 |
| Магілёў | -1 / +3 | 746 | ↑ 5 |
| Гомель | 0 / +2 | 751 | ↑ 6 |
| Брэст | -1 / +7 | 743 | ↑ 6 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Ашмяны**

- Мінімальная тэмпература -24,8 °С у 1985 годзе
- Максімальная тэмпература +11,4 °С у 1990 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 8,7 мм у 2002 годзе

Назіранні за 37 год. Паводле meteoinfo.by

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Самы незвычайны падарунак у вашым жыцці?

**Дыяна Асіповіч, навучэнка:**

– Гады два таму мне сястра на дзень нараджэння падарыла сабаку.

**Ілля Крыцук, навучэнец:**

– Калі мне споўнілася чатыры гады, мае бацькі падарылі мне сястру. Гэта самы бескарысны падарунак, які ёсць, ные і перашкаджае.

**Алена Макоўская, настаўніца:**

– Я заўсёды дамаўляюся са сваімі і блізкімі пра падарункі. Таму нічога незвычайнага я ніколі не атрымліваю. Але магу парадаваца жоўтым цюльпанам ці маленькаму букецiку пралесак.

**Дзмітры Сямашка, навучэнец:**

– Звычайна мне дораць тэхніку, але раней, калі вучыўся ў школе, дарылі карціны і рамкі пад фота. Нават было такое, што дарылі аднолькавыя падарункі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Псіхолаг з Маладзечна Таццяна Жданава сцвярджае, што стаць шчаслівым можа кожны. А шчасце можна прывабіць, калі пастарацца і абзавесціся карыснымі звычкамі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 8 (1034) 20.02.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1021. Падпісана ў друк у 9.00 19.02.2015.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.